

Гайнаўская „Гавэнда”→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




З місіяй у Амазоніі→5

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 10 (2965) Год LVIII | Беласток, 10 сакавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

Юбілейны XX Агульнапольскі фестываль „Беларуская песня — 2013”, арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам, завяршыўся гала-канцэртам у новым гмаху Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай у Беластоку. Пасля раённых элімінацый (Беласток, Гайнаўка, Бельск-Падляшскі, Дуброва-Беластоцкая (Сакольшчына) і Сямятычы), у якіх змагаліся выканаўцы беларускай песні ў катэгорыях фальклорнай апрацаванай і аўтэнтычнай песні ды сучаснай песні — ад салістаў, шматлікіх вакальных і эстрадных калектываў і хароў, у колькасці 111 выканаўчых адзінак, разам больш за 700 асоб, быў адабраны склад пераможцаўлаўрэатаў конкурсу, які выступіў перад тысячнай публікай на ўрачыстым і вельмі багатым канцэрце.



Марыя Врублеўская

з архаічным спевам — ды эстрадная „Калінка” з Беластока. Вядомыя ў народзе „Ас” з Беластока ды „Падляшская капэла” з Сямятыч і маладыя яшчэ „Гай” Марыюша Харужага. Паявіліся новыя ансамблі, як хор Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім. Калектывы, падтрымліваныя сваімі — гміннымі і гарадскімі — цэнтрамі культуры ды самаўрадамі, выхаваныя стойкімі беларускімі дзеячамі культуры, такімі як Люба Гаўрылюк, Сяргей Лукашук, Аліна Негярэвіч, Лідзія Мартынюк, Ала Каменская, Міраслава Ціханюк, Бажэна Ляўчук, Галена Шчыгал, якіх штодзённы шматгадовы неацэнны труд бачны ўсімі з нагоды святаў беларускай культуры.

— Сёння таксама важная для на-

# Вялікі гала-канцэрт у вялікай оперы





„Прымакі”



Гала-канцэрт 2 сакавіка ў Беластоку працягнуўся больш за чатыры гадзіны, аздоблены таксама выступленнямі гасцей з Беларусі. Разам з тутэйшымі выканаўцамі адрэкамендаваліся вакальна-харэаграфічны ансамбль „Белы птах” з Мінска (мастацкі кіраўнік Вольга Жышкевіч), фольк-медыя група „Неруш” з Мінска (мастацкі кіраўнік Валянціна Гладкая) і Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль „Харошкі” з Мінска (пад кіраўніцтвам Валянціны Гаявой). Канцэрт, які сабраў таксама квет дыпламатыі ды дзяржаўных і самаўрадавых чыноўнікаў з Беласточчыны, Мінска і Гродна, павялі ў гэты раз канферансье з Беларусі па сцэнарыі аздобленым прыгожым беларускім словам аб родным.

— На пачатку мы пачулі песню „Мой Беластоцкі край” у выкананні нашага папулярнага калектыву „Прымакі”, — адзначыў, адкрываючы фестываль, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. — Аўтарам яе слоў з'яўляецца вядомы паэт з Беласточчыны Алесь Барскі, а музыку напісаў Мікалай Сацура з Мінска. Песня гэтая яднае нас усіх, беларусаў Беласточчыны, у любові да нашай малой айчыны, адкуль нашы карані. Трэба ўспомніць яшчэ пра адну, асабліва важную ў нашым жыцці і ў нашай культуры песню, якая сталася вельмі эмацыянальным, вельмі ўзрушальным гімнам беларусаў Беласточчыны, а можна нават сказаць — асаблівай малітвай нашага тут беларускага народа. Гэта песня на словы Канстанцыі Буйло „Люблю наш край старонку гэту”. Ёсць у гэтай песні нейкая цудоўная магія, якая заразіла эмацыянальна і патрыятычна дзесяткі тысяч беларусаў Беласточчыны, а ў тым ліку і вас з намі.

Выступленні пачаў хор „Рэха пушчы” песняй на словы іншага заслужанага беластоцкага аўтара Віктара Шведа — „Мая маленькая айчына”. Найцудоўна з усіх выканаўцаў гучаў „Рассыпаны Гарадок”, здаецца, не цалкам залежна ад знакамітай гукаўзмацняльнай прафесійнай філармaнічнай тэхнікі. Выступілі вядомыя ад гадоў майстры песні Люба Гаўрылюк і Ала Каменская з Козлікаў, Марыя Врублеўская з Гарадка, маладыя гайнаўнянкі Рэната Тышынская, Дар'я Маркевіч, сямейнае трыо сясцёр Садоўскіх-Пятроўскіх з Макаўкі, вялікія хары і калектывы „Крыніца” з Беластока, „Оморфос” з Сямятыч, калектыў з Рыбалаў, „Каласкі” з Беластока, „Спадчына” з Белліцэя ў Бельску, „Загадка” з Супраслі, „Маланка” і хор „Васілёчкі” з Бельска. Па-сучаснаму патрыятычныя песні („Гэта наш край”, „Гэта Беларусь”) прагучалі ад Студыі песні ГДК (пад апекай Марты Грэдаль-Іванюк) ды белліцэйская „Знічкі” з Гайнаўкі ды „Арт-Пронара” ці маладой „Нарвы” з Нарвы. „Жэмэрва” са Студзіводаў шых краін дата — 21 гадавіна ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, — адзначыў пасол РБ у Польшчы Віктар Гайсёнак. — Я разглядаю гэты фестываль не толькі як фестываль беларускай песні. Разглядаю яго як і свята народнай дыпламатыі, якое ўносіць важкі ўнёсак у развіццё двухбаковых адносін паміж нашымі краінамі, спрыяе дружбе паміж нашымі народамі.

Фестываль, сарганізаваны пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства і прэзідэнта горада Беластока, пад медыйным патранатам Радыё Беласток і Беластоцкага тэлебачання. Мерапрыемства рэалізуецца пры супрацоўніцтве Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Фінансавую дапамогу аказалі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Гарадская ўправа горада Беластока, Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.





# І памежны і малы

Мне патэлефанаваў знаёмы:

— Здароў, Віктар, — сказаў ён такім таямнічым шэпатам, які не пакідаў аніякіх сумневаў пра тое, што чалавек прыдумаў нейкі новы жарцік, і зараз спрабуе знайсці правільную сістэму як гэты жарт больш смешна данесці да іншых.

— Здароў, — адказваю яму і дадаю, — мне сёння не да жартаў. Спрабую напісаць сур'ёзны матэрыял. Таму калі ў цябе нешта вартае, то кажы. А як не, то не дуры мне галавы.

— Ну што ты, дружа, — расчаравана і занудліва кажа ён. — Як ты мог падумаць, што я скажу нешта несур'ёзнае. Вельмі важнае пытанне хачу закрануць. Навошта вы, апазіцыйныя журналісты, пішаце, што няма малога памежнага руху?

— Бо яго няма, — адказваю.

— Няпраўда. Ён ёсць. Я асабіста на сабе яго адчуў.

— Як гэта, — здзівіўся я. — Першы раз чую. Калі ты гэта адчуў? Як? Дзіва нейкае! Распавядай хутчэй!

— Ды вось. Акурат учора ехаў у Польшчу. І ўбачыў, што малы памежны рух ужо дзейнічае, — смяецца ён. — На мяжу я прыехаў у сем гадзін раніцы. І вось, з сямі да дзесяці я прастаяў у чарзе і рухаўся ў кірунку Польшчы так памалу, што за тры гадзіны праехаў не больш чым семсот метраў. Так памалу ехаў, што разлаваўся не на жарт. Пачаў абурацца. Чаму, маўляў, так памалу рухаемся. А мне людзі са смехам адказваюць, што рухаемся так памалу таму, што апрабоўваецца малы памежны рух. А паколькі ён памежны, значыць трэба рухацца па мяжы. А паколькі ён малы, то рухацца трэба памалу.

І рагоча так, нібыта гэты жарт найлепшы ў свеце. Ды і мне стала смешна. Гумар, думаю, гэта адзінае, што дазваляе выжыць у крытычных умовах. Ну, але, тэма памежная вельмі цікавая. Усе пра яе гавораць. Дай, думаю, на мяжу пад'еду, на свае вочы ўсё пабачу, з людзьмі пагавару, сябе пакажу.

А на мяжы чэргі. Праўда, з фураў большыя чым з легкавікоў, ды нашмат большыя. Таму я да іх і пасунуўся.

— Што вы чулі пра малы памежны рух? — пытаюся. — А то жартуюць, што ён ужо даўно дзейнічае.

— Ясна, што дзейнічае, — адказваюць. — Толькі ў легкавікоў дзейнічае малы малы памежны рух. Рухаюцца яны памалу, але рухаюцца. А ў нас, фураў, дзейнічае вялікі малы памежны рух. Таму мы практычна ўвогуле не рухаемся. Як бачыш, пакуль чыноўнікі вырашаюць, які мусіць быць гэты малы памежны рух, нашыя ўлады яго ўжо ажыццяўляюць.

І смяюцца. Ды і сапраўды смешна. Гумар памагае выжыць. А то і звар'яцець без яго на доўгім памежным стаянні не складана.

— То раскажыце мне яшчэ што смешнага, — прашу, — паколькі і так усё трагічна да роўню камічнага.

— Тут у нас адзін кіроўца не зразумеў, што малы памежны рух дзейнічае, і таму трэба рухацца памалу. А яму хацелася хутчэй, — апавядаюць шафёры. — Ну то ён прыдумаў гісторыю, што ў яго жонка памерла. Маўляў, вельмі трэба хутка ехаць. „Прапусціце, — просіць, — без чаргі". А яго прапускаць ніхто не хоча. Каму чужая бяда свярбіць? А кіроўца не здаецца. І аднаму расказвае пра смерць жонкі, і другому. Да самага вялікага кіраўніцтва дайшоў. І дзіва! Нехта на нейкім этапе яму паспачуваў. „Раз такая бяда, — кажуць, — то едзь, чалавеча, без чаргі. Што ж мы, — кажуць, — не людзі? Не разумеем чалавечага гора?". А той шафёр, атрымаўшы дазвол на пераезд мяжы па-за чаргой, замест ехаць сеў і плача. У яго калегі пытаюць, чаму не едзе. А ён плача і кажа, што нікуды не паедзе, бо няма куды яму ехаць. Бяда ў яго, жонка памерла.

Той плача, а ўсе смяюцца. Сапраўды смешна. Ледзьве таго кіроўцу пераканалі, што жонка ў яго жывая. „Ты, — кажуць, — пра смерць жонкі сам прыдумаў, каб памежнікаў падмануць, каб цябе без чаргі пусцілі".

Бедны шафёр узрадаваўся і кажа:

— Ну то, хлопцы, сапраўды не магла мая жонка памерці, бо няма ў мяне аніякай жонкі. Я ж халасцяк.

Смешна. У Гародні ўвогуле ўсё смешна. Тут актывісты дазвол атрымалі на акцыю з мэтай распавесці пра малы памежны рух. Але як сталі яе праводзіць, то ім забаранілі. Не паверылі, што такі дазвол можа быць у прынцыпе. Такі, маўляў, гумар, нават уладам мець не дазволена.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Што гэта адбываецца ў свеце

Што такое адбываецца ў свеце! Доларавыя купюры апанаваў таксічны грыбок. Выпадкам у Беларусі. Па дадзеных яе ўлад, кошт долара, пашкоджанага грыбком, памалу раўняецца грыбаўстойліваму рублю. Такім чынам даручылі банкам выкупіць зацвілую валюту. Вядома, дзеля дабрабыту грамадзян. Верагодна, да здзіўлення і зайздрасці ўсяго свету, ВУП Беларусі неўзабаве можа дагнаць ВУП Злучаных Штатаў. Вядома, калі беларусы паверацьЬ, што каштоўнасць іх нацыянальнага рубля ў мільён разоў большая, чым сушанага махавіка. Невядома ці махавікоў не стачылі ўжо тэрміты.

Эх, што адбываецца ў свеце! Ва Узбекістане тэрміты зжыраюць помнікі нацыянальнай культуры, занесеныя ў спісак Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА! Гэта добрая нагода, каб з'едзены тэрмітамі карумпаваны ўрад саступіў у распараджэнне гэтай агенды ААН. Вядома, у імя абароны нацыянальных помнікаў. Праўду кажучы, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый не менш сточаная тэрмітамі, толькі што бюракраты, то пераймаючы праўленне над Узбекістанам, зможа аб'явіць аб сваёй незалежнасці ад дзяржаў, якія іх утрымліваюць. Такім чынам узнікне першая ў гісторыі краіна, членамі якой з'яўляюцца ўсе астатнія краіны свету. Ідэя еўрапейскай супольнасці, вядомай пад назвай Еўрапейскага Саюза, насупраць дзяржавы дзяржаў гэта вялы агурок пры высакароднай дыні. Я не ведаю чаму, але я аддаю перавагу агурку. Гэта свойскі твор, моцна ўстойлівы да карупцыі і, здаецца, лепшая закуска пры гарэлцы. І якая карысць ад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый?

Што гэта такое, што адбываецца ў свеце! У Кітаі пачынаецца велізарны пералік мух, прысутных у грамадскіх прыбіральнях. Гэта не падман! У гэтым храме глыбокай рэфлексіі грамадзяніна над вялікасцю дзяржавы не можа, паводле ўрадавай дырэктывы, у той жа час прабываць больш чым тры мухі. Чаму тры, а не, напрыклад, дзве — найбольшая таямніца ўлады. На мой погляд, нават адна муха — па натуры злосная і ўсюдыісная — можа перашкодзіць прадзяржаўнаму абдумванню надпісаў, якія пярэсцяць туалетныя сцэны, па крайняй меры ў Польшчы. «Тут спаражняецца ПіС». Або: «Туск б'е мяне па мазгах». Або: «Польшча для палякаў — астатні свет для чарвякоў!» Гэта толькі прыклады нявіннай патрыятычнай апантанасці. Таму што ёсць і надпісы не дурнейшыя, чым тэмы доктарскіх дысертацый: «Калі д'ябал не можа, туды адправіць падраснага». Альбо: «Няхай жыве Хрыстос, праўдзівы кароль палякаў». Дык чаму магло б быць інакш у Кітаі? Проста цікава, чаму іхнія ўлады сваім ворагам назвалі мух. Гэта не абяцае нічога добрага іхняму насельніцтву. Паколькі гэтая казурка цікаўная і занятая, таму цяжка будзе адрозніць непалічаную ад палічанай. Тым больш, што простым вокам мухі ад мухі не адрозніш. Магчыма, грамадзянскія брыгады смерці, створаныя для ліквідацыі звышнарматыўнай колькасці мух, знішчожаць іх дашчэнту. Падобна да таго, як гэта было ў 60-х гадах XX стагоддзя з вераб'ямі. Паводле тагачасных камуністычных улад, яны выдзёўбвалі палову кітайскага ўраджаю рысу да заканчэння ўборкі, што прывяло да галоднай смерці каля дваццаці мільёнаў людзей. Праўда проста была такая, што вялікую частку рысу адпраўлялі на экспарт у існуючы ў той час Савецкі Саюз. У абмен на зброю і ваенныя тэхналогіі. Ну і што, што народ галадаў. Але з вінтоўкай у руках. Хоць таксама трэба сказаць, што дзякуючы птушкам, грызунам і ўсякім чарвякам многія кітайцы перажылі галодныя гады. Вядома, улады прыпісвалі поспех сабе. Каб такую ўладу да касцей стачылі тэрміты!

Улады, акрамя таго, незалежна ад вызнаванай ідэалогіі, рана ці позна пачынаюць выпрабоўваць праблемы з мозгам. Сточваюць іх тэрміты. Па-першае, адзін з другім пачынае нешта мармытаць пра пятую калону, якая павінна быць цалкам знішчана. Тады загадвае забіваць усё роўна што. Улады ж не вызначылі, што такое пятая калона. У адпаведнасці з бягучымі патрэбамі ў прыналежнасці да яе можна абвінаваціць як любога грамадзяніна, так і запляснелага долара ці дажджавых чарвякоў. Таму што ўладу не турбуюць проста тэрміты, якія ёю кіруюць — тэрміты пыхі, ганарыстасці, эгаізму і чаго там яшчэ. Улада для ўлады — чыстая бязглуздзіца. Затое ўтрыманне ўсеядных тэрмітаў з'яўляецца праблемай. Ой, што адбываецца ў свеце — тэрміты кіруюць намі.

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Здаецца - значыць міграцыйны цуд



На фейсбуку з'явіўся ў апошнім часе ўпіс Тамаша Сулімы з Музея малой айчыны ў Студзіводах, ад нядаўна кіраўніка Асацыяцыі беларускіх журналістаў: «Так шмат кажуць аб агульнай беднасці ў Беларусі і злым дыктатары. Аказваецца, у Рэспубліцы Беларусь працуе 236 тысяч імігрантаў з Польшчы. У 2011 годзе краіна прыняла ад іх 534 млн. долараў, гэта значыць, кожны ў сярэднім перадаў па 2,3 тыс. долараў. Для параўнання, у Польшчы працуе 112 тысяч выхадцаў з Беларусі. У мяне няма дакладных лічбаў, але адправілі яны ў Беларусь менш чым 63 мільёны долараў». Дадзеныя Тамаша паходзілі са штотыднёвіка «Форум». Апублікаваны былі раней у прэстыжным часопісе «The Guardian» і з'явіліся на паважаным у свеце польскім бізнес-партале «Bankier.pl». Ну, як не даць веры такім крыніцам? Але як толькі паявілася гэтая інфармацыя, была яна сустрэта з вялікім недаверам карыстальнікамі фейсбука, у тым ліку і маім. Адзін з серфераў не хаваў: «Глупства на спружынах». Тамаш Суліма сам спрабаваў высветліць: «Нэ маю поняц'я на якуй подставі тое вылічылі. Пытанне ў тым, хто ўключаны ў лік гэтай чвэрці мільёна палякаў». Азваўся, між іншым, карэспандэнт «Выбарчай газеты» ў Беларусі ў 90-х гадах, знакаміты журналіст Цэзары Галінскі, які параўнаў гэтыя дадзеныя да колькасці палякаў, якія маюць права голасу ў консульскіх установах і пасольстве ў Беларусі ды сказаў: «Гэта хутчэй ліпа». А Тамаш Суліма ў нейкі момант дайшоў да высновы: «Гэтыя дадзеныя перадрукавалі між іншым штотыднёвік «Форум». Ці, мабыць, яны бралі ўсіх «працоўных» на мяжы, зарабляючых на нафце і цыгарэтах? Гэта дзіўна, што так несвядомыя дадзеныя змясціў у польскіх СМІ. Крыніцы здаліся верагоднымі для мяне — «Форум» прывёў брытанскую «Guardian», Bankier.pl — спаслаўся на Сусветны банк. Большая частка інфармацыі ў ЕС і РБ хаваецца, так што я не змог у першую хвіліну гэтаму запярэчыць».

Я вырашыў пытанне высветліць у крыніцы. Скантактаваўся з Мальвінай Вротняк, аўтаркай тэксту на партале «Bankier.pl», пад якім была спасылка на дадзеныя Сусветнага банка:

— Я думаю, што гэта польскія імігранты, якія з'ехалі ў Беларусь на працягу многіх гадоў. Мы думалі ў рэдакцыі над гэтымі дадзенымі, і так нам здавалася (! — М.Х.). Я не ведаю, якую Сусветны банк прыняў метадалогію падліку.

Адказваючы мне, якія даследаванні выкарыстаў Сусветны банк, журналістка сказала, на маё здзіўленне:

— Я не памятаю. Сама я думаю, што гэта дзіўна, але так нам здалося (! — М. Х.).

Я патэлефанаваў Агнешцы Баратынскай з варшаўскага прадстаўніцтва Сусветнага банка. Гэтая пасля праверкі напісала мне загадкава: «Дадзеныя, якімі пакарысталася аўтарка артыкула на сайце «Bankier.pl», паходзяць з сайта «The Guardian», а не з сайта ці рапарта Сусветнага банка. Я ведаю, што артыкул быў выдалены і ён недаступны ў сеціве». Праз два дні ў тэлефоннай размове яна дадала:

— Мы здзіўлены, што спасылаліся тут на Сусветны банк. Мы такіх даследаванняў у гэтым рэгіёне Еўропы не праводзілі, а калі б яны былі, якраз мы іх праводзілі б.

Так што з майго расследавання вынікае, што гэтае — верагодна — журналіцкае бздо выпусцілі ў брытанскім «The Guardian» (застаецца пытанне, чаму), а ў Польшчы яго міжволі перадрукавалі. «Сенсацыя», што ў 2011 годзе 236 тысяч палякаў эміграваў ў Беларусь за працай, з'яўляецца выдатнай падкормкай для многіх польскіх папулістаў і палітычных круцялёў, як тыя з партыі «Samoobrona», якія паступова легітымізуюць рэжым Аляксандра Лукашэнкі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Цікава расказвалі па-беларуску

**Конкурс расказчыкаў «Беларуская гавэнда» — цікавая ініцыятыва Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якую ад самога пачатку ўдала рэалізуе настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі. Удзельнікі конкурсу маюць магчымасць пазнаёміцца з прыгожым школьным будынкам і з атмасферай школы, што можа падштурхнуць іх пастуціць у будучыні ў белгімназію і белліцэй. У час выступленняў расказчыкаў прапагандуецца беларускае слова, а польскамоўныя дзеткі вучацца думаць на беларускай мове. Малымі крокамі можна рабіць вялікую справу, узмацняць нацыянальную свядомасць маладых людзей.**



Бартак Яканюк з гайнаўскай «шасцёркі»

22 лютага ў актавай зале белліцэя і белгімназіі ў Гайнаўцы спаткаліся расказчыкі, іх настаўнікі, некаторыя бацькі. Публіку складалі белліцэісты. «Беларускую гавэнду 2013» адкрыў настаўнік Ян Карчэўскі, а бурмістр Гайнаўкі Юрый Сірак звярнуў увагу на прэстыж «Беларускай гавэнды», патрэбу падтрымлівання мясцовых традыцый і выказаў спадзяванне, што конкурс удала будзе працягвацца і ў будучыні. Дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко ўручыў віншавальныя лісты настаўнікам беларускай мовы, якія рыхтавалі вучняў да конкурсу і звярнуў увагу на шматгадовую актыўнасць настаўніка Яна Карчэўскага ў галіне прапагандавання беларускага слова. Галоўным спонсарам конкурсу расказчыкаў была Гарадская ўправа Гайнаўкі. Мерапрыемства падтрымалі таксама Бацькоўскі камітэт Комплексу школ з ДНБМ і Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве РБ у Польшчы, якога віцэ-дырэктар Дзяніс Вялічка быў прысутны ў час конкурсу. Кожны ўдзельнік «Гавэнды» атрымаў набор паштовак з гістарычнай інфармацыяй, выдадзеных у рамках кампаніі «Будзьма беларусамі», якая папулярызуе каштоўнасці нашай шматвяковай гісторыі. Арганізатары кампаніі «Будзьма беларусамі» разлічваюць на развіццё беларускай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і на пашырэнне беларускай культуры. Удзельнікам конкурсу было запрапанавана рассылаць пры розных нагодах атрыманыя паштоўкі сваім сябрам і знаёмым.

У час XIV выпуску «Беларускай гавэнды» можна было ўчуць розныя расказы.

— Тэму да аповеду падрыхтавала мая настаўніца Анна Кандрацюк, але я рашылася на сваю інтэрпрэтацыю. Першы раз выступала я ў час «Гавэнды» і таму не мела параўнання з іншымі расказчыкамі, але я задаволена са свайго выступу, — сказала Наталля Васько з Гімназіі ў Нараўцы, якая стала лаўрэатам першага месца сярод гімназістаў. Выступіла яна на нараўчанскім дыялекце, змешаным з беларускай літаратурнай мовай. Яе расказ вылучаўся моцным гумарам. Усе іншыя выступленні былі на беларускай літаратурнай мове. Настаўнікі патлумачылі, што зараз штораз менш вучняў, нават вясковых, умее добра гаварыць і думаць на сваіх гаворках і гэта з'яўляецца перашкодай пры выбары дыялектнай мовы для расказаў.

— Калі я слухаю нашых расказчыкаў у сябе ў школе, іх выступы дасканалыя. Тут, перад публікай, вучні хвалююцца і не выступаюць ужо так добра. Аднак Наталля Васько, якая запрэзентавалася з расказам узятым з жыцця, выступіла сёння вельмі ўдала і відаць было, што яе аповед вельмі спадабаўся публіцы, — гаварыла настаўніца нараўчанскай школы Анна Кандрацюк.

Іншы гімназіст са школы ў Нараўцы, Лукаш Марчук, які заняў другое месца, заявіў, што яму самы важны кантакт з публікай.

— Я яшчэ як вучаніца гайнаўскай «шасцёркі» пачала прымаць удзел у «Гавэндзе», а зараз, як белгімназістка, працягваю выступаць. Люблю прэзентаваць жывыя, вясёлыя аповеды. Расказваючы з гумарам, лягчэй зацікавіць публіку, — заявіла Анна Несцярук з Гайнаўскай белгімназіі, лаўрэатка другога месца.

Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў яшчэ Адам Харкевіч з Гімназіі ў Нараўцы, а на трэцім месцы апынуўся Ян Аксянцюк з Гімназіі ў Нарве. Вучні падставовых школ дабіваліся поспехаў перш за ўсё паказваючы свае акцёрскія здольнасці і выступаючы з менш складанымі аповедамі.

— Сёлета менш ахвотных выступаць з расказамі (разам запрэзентавалася 14 асоб — А. М.) і так было і ў нашай школе. Каб вучні маглі ўдала выступіць з аповедамі, мусяць мець у сабе акцёрскую ўхватку. Нам, настаўнікам, складана вышукаць цікавыя расказы для дзетак і дапасаваць іх да тэмпераменту вучняў. Аднак тыя расказчыкі, што рашаюцца выступаць у «Гавэндзе», стараюцца выступіць як мага найлепш, — сказала настаўніца беларускай мовы з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы Беата Кендысь.

Двух вучняў з гайнаўскай «шасцёркі», Бартак Яканюк і Дар'я Місяюк, сталі лаўрэатамі першага месца ў групе вучняў падставовых школ.

— Наш Бартак вельмі ахвотны выступаць на сцэне. Ужо як дашкольнік прэзентаваўся ўдала ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і ў рэлігійным конкурсе, а ў гэтым школьным годзе рашыўся выступіць з расказам і дэкламацыяй, — сказала мама Бартка, Анна Яканюк, якая прыдбала таксама для сына народны беларускі ўбор з вышыванай кашуляй і доўгімі ботамі.

— Я люблю дэкламаваць, расказваць і сёння не хваляваўся перад публікай. Беларуская мова гэта найлепшая мова і па-беларуску я ўжо выступаў раней у прадшколлі, — гаварыў першакласнік Бартак Яканюк.

Раўнапраўнае першае месца ў катэгорыі вучняў падставовых школ заняла таксама Мартына Белавежац з Падставовай школы ў Чыжах, якая прыехала на конкурс са сваёй мамай Іаннай Белавежац, чыжоўскай бібліятэкаркай.

— Мы дома гаворым да Мартыны па-свойму і таму ёй лягчэй было выступаць з беларускім аповедам, — гаварыла Іаанна Белавежац і дадала, што дома дачка таксама многа трэніравалася перад выступам.

— Я люблю вучыцца беларускай мове, дэкламаваць і расказваць. Да сённяшняга выступу з расказам апрача настаўніцы ў школе рыхтаваў мяне мой бацька, — заявіла лаўрэатка першага месца Дар'я Місяюк з Гайнаўкі.

Другое месца заняў Крыстыян Паскробка, а трэція месцы камісія прызначыла Карнеліі Аніце Порац і Юліі Шклярэўскай. Усе яны прыехалі з Падставовай школы ў Нарве.

— Я сярод сваіх вучняў раблю яшчэ школьныя адборы і на конкурсы прыязджаюць самыя лепшыя расказчыкі і дэкламатары. Больш дзетак прыступае да дэкламатарскага конкурсу, бо лягчэй дэкламаваць, чым расказваць. Але ёсць і вучні, якія ўмеюць па-акцёрску распавядаць, — гаварыла настаўніца беларускай мовы з Падставовай школы ў Нарве Ніна Абрамюк.

У белліцэй прыехаў таксама Славамір Паскробка, бацька Крыстыяна, які пахваліў настаўніцу Ніну Абрамюк за падрыхтоўку яго сына да конкурсаў і выступаў з беларускім словам у час мерапрыемстваў у Нарваўскай гміне.

Хаця толькі адна белліцэістка Адрыяна Прусіноўская выступіла ў катэгорыі звышгімназічных школ, запрэзентавалася па-акцёрску і атрымала першае месца.

— Я першы раз выступіла ў «Беларускай гавэндзе». Часта спяваю песні, аднак рашылася паспрабаваць сіл з расказам. Шкада толькі, што не было канкурэнцыі, але гэта мне не перашкодзіла, бо я хацела як найлепш запрэзентавацца перад публікай. Паспрабавала я зацікавіць публіку сваім аповедам і думаю, што гэта мне ўдалося, — сказала Адрыяна Прусіноўская.



Дар'я Місяюк з гайнаўскай «шасцёркі»


Мартына Белавежац з Падставовай школы ў Чыжах



Наталля Васько з Гімназіі ў Нараўцы

— Вучні з настаўнікамі падабралі цікавыя аповеды, многія расказчыкі выступілі займальна, а ў дзетак і моладзі быў добры кантакт з публікай. Пераможцам мы падрыхтавалі вартасныя ўзнагароды, а XV юбілейны конкурс маем намер арганізаваць асабліва ўрачыста, — гаварыў арганізатар конкурсу Ян Карчэўскі.

— Узровень сёлетняга конкурсу расказчыкаў нядрэнны. Хаця запрэзентавалася менш асоб, чым у мінулых гадах, паявіліся новыя здольныя расказчыкі. Вучні выступаюць з цікавымі аповедамі. Мусілі яны ўкласці многа працы, каб сёння займальна расказваць, — сказала старшыня конкурснай камісіі Іаланта Грыгарук, настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі і заадно метадыст па справах навучання беларускай мовы.

У журы працавалі яшчэ бібліятэкарка-настаўніца белліцэя Ірэна Ігнатовіч і бібліятэкарка Беларускага музея ў Гайнаўцы Анджаліна Масальская. Пераможцы пабач узнагарод атрымалі таксама дыпломы, якія будуць памяткай на доўгія гады і доказам, што ў моладасці прапагандавалі беларускае слова.

# Фотаздымак з гісторыяй



Брэст, 2000 год. Мы з Васілём Маркевічам на вуліцы Брэста. З намі дружалюбны пудзель Тэддзі.

Сябрам стаў зямляк з Беластока.

... А пазнаёміліся мы так... Было гэта ў 2000 годзе.

На вуліцы Брэста ветлівы чалавек запытаў у мяне як прайсці да краязнаўчага музея.

Такое пытанне не дзіўнае для горада, дзе бывае шмат турыстаў з розных краін. І яно магло прагучаць на адной з еўрапейскіх моў. Аднак госць звярнуўся да мяне на чыстай беларускай мове. Праўда, з невялікім акцэнтам. Хто ж гэты замежнік, які добра ведае маю мову? І мне захацелася працягнуць наша знаёмства. І не пашкадаваў. Госцем Брэста аказаўся беларус з Польшчы, з Беластока Васіль Маркевіч.

У мяне быў час і я запытаў:

— А можа стаць спадарожнікам?

— Канешне, можна, — задаволена адказаў Васіль.

Так мы і пасябравалі з маім равеснікам, выкладчыкам адной з навучальных устаноў Беластока Васілём Маркевічам. І некалькі дзён, што Васіль быў у Брэсце, не расставаліся з ім.

Усім ён цікавіўся, усюды яму хацелася пабыць. І мы наведалі ўсе музеі, канешне ж, прыйшлі і ў Брэсцкую крэпасць, пакаталіся на цеплаходзе па рацэ Мухавец, что цячэ ў Заходні Буг. І больш таго. На маёй аўтамашыне аб'ездзілі ваколіцы Брэста. А калі хадзілі па Белавежскай пушчы, Васіль заўважыў, паказваючы рукой на захад:

— Літаральна ў некалькіх кіламетрах, там, за лесам, і за дзяржаўнай мяжой і мая родная вёска, і родная хата, і там мая матуля жыве...

Мы развіталіся на вакзале добрымі сябрамі. Васіль паехаў у Беласток. «Дзякуй лёсу за сустрэчу з такім добрым чалавекам», — думаў я.

У Польшчы ў мяне нямала і знаёмых, і сяброў. І ў сталіцы Варшаве, і ў Седльцах, і ў Вішневе каля Любліна... З імі былі сустрэчы больш грунтоўныя, часам нават вырашалі агульныя справы, часта сустракаліся. А вось тая выпадковая сустрэча з Васілём запомнілася асобна. І аднойчы, нават не папярэдзіўшы яго, я прыехаў у Гайнаўку. Я разумеў, што недзе паблізу і родная вёска Васіля Маркевіча. З Гайнаўкі пазваніў у Беласток. І хоць званок да Васіля быў нечаканы, ён сказаў:

— Будзь у Гайнаўцы, зараз прыеду.

І хутка ён прыехаў да месца сустрэчы ў Гайнаўцы.

І цяпер ужо я быў госцем, а Васіль — гаспадаром. Канешне ж, мы паехалі ў родную хату Васіля, у вёску да яго мамы. Доўга-доўга гаварылі пра жыццё-быццё. А затым Васіль паказваў царкву, якую вяскоўцы пабудавалі за свае сродкі. Пагасцявалі ў майстра, які выдатна выразае з дрэва розныя скульптуры і кампазіцыі. Сапраўдны мастак. Хоць па адукацыі і пасадзе ён — спецыяліст лясной гаспадаркі. А вось такі самабытны талент. Завёз Васіль і да гаспадара, які на сваёй зямлі мае ўласную ферму страўсаў.

А затым была вячэра сярод новых сяброў і спявалі мы добрыя беларускія і польскія песні.

Больш за дзесяць гадоў прайшло з таго часу. А помніцца ўсё, як сёння. А яшчэ нагадвае пра тую першую сустрэчу ў Брэсце фотаздымак.

Часам я званю ў Беласток да Васіля Маркевіча. І ўсё запрашаю яшчэ раз прыехаць у госці. Цяпер праграма яго наведання Беларусі будзе куды большай. Мяркую звазіць яго на сваю малую радзіму. Яна на Віцебшчыне. А гэта край нашых блакітных азёраў. А дарога цераз усю краіну. Пабачым многія гарады, у тым ліку і сталіцу — Мінск.

Васіль абяцае прыехаць і шкадуе, што не заўсёды хапае яму часу. І вось гэтая замалёўка пра наша даўняе знаёмства з цікаўным чалавекам няхай паслужыць Васілю Маркевічу добрым напамінам і шчырым запрашэннем.

**Анатоль ПАЛОНСКІ, Брэст, Беларусь**

# Спеў анёлаў у Востраве



Фота Іаанны ЧАБАН

Айцец Аляксандр рады вітаць шаноўных гасцей

Клірасы цэркваў Сакольшчыны ўжо ад доўгіх гадоў пустуюць. Царкоўным спевам займаюцца там, у асноўным, бабулі, якіх з кожным днём становіцца менш. У сувязі са склаўшайся сітуацыяй прыезд на гэтую зямлю моладзевага, кафедральнага хору з Беластока можна лічыць заметнай духоўнай і культурнай падзеяй. Мароз і моцны вецер у напаўпустынным наваколлі востраўскай царквы не напалохаў жадаючых павітаць беластоцкіх гасцей. Ахвотных паслухаць анёльскага спеву прыбыло сапраўды шмат. Апрача востраўскіх прыхаджан паявіліся тут і суседзі з Крынак на чале з бурмістрам Багуславам Панасюком. Настаяцель Востраўскага прыхода бацюшка Аляксандр Клімук, як заўсёды, стараўся ад душы прыняць паважаных гасцей. Ён нават задумваўся над невялікай перастаноўкай інтэр'ера царквы, каб месца для пеўчых зрабіць больш прасторным. Трэба адзначыць, што хор гасцей колькасцю ў дзесяць разоў перавышаў састаў спяваючых тут штодзень вастраўлян. Што цікава, сярод рэпрэзентантаў Свята-Мікалаеўскага сабора з Беластока апынулася некалькі выхадцаў з Шудзялаўскай і Крынскай гмін. У кожнага царкоўнага хору свае абавязкі і рэжым багаслужэнняў, які не дазваляе на частыя паездкі ў іншыя прыходы. Маладыя землякі прынамсі ў вялікія святы, паасобку, сваім спевам стараюцца падтрымліваць жыццё маленькіх, родных царковак. Сёлетняя нядзеля аб мытары і фарысеі, падгатаўляючая да перыяду Вялікага посту, асабліва прыблізіла наведвальнікаў востраўскай царквы да цвярдыні раю. Цудоўны спеў маладых харыстаў з неверагоднай сілай адарваў усіх прысутных ад турбот штодзённага жыцця. Нягледзячы на фізічны холад неабаграванага, мураванага храма, адчувалася там сапраўднае, душэўнае цяпло. Яно перанеслася і ў заўсёды гасцінны, прыцаркоўны, прыхадскі дом. Там незвычайным гасцям быў падрыхтаваны пачастунак. У смаку пірагоў, спечаных з гэтай нагоды ўдзячнымі прыхаджанкамі, таксама адчувалася спалучэнне зямнога і нябеснага. Мабыць, на самых лепшых салонах Беластока ці Варшавы не зведаць такой смакаты. Дапаўненнем шчодрага застолля былі народныя песні ў выкананні ўсіх прысутных. Гаспадары прыхадской хаты паклапаціліся і аб прамоцыі роднага слова, расклаўшы на кафейным стале ў прахадным салоне беларускамоўную перыёдыку. Дапаўненнем востраўска-беластоцкай сустрэчы была паездка на вогнішча ў мясцовае надлясніцтва і катанне на сапраўдных санях.

**Іаанна ЧАБАН**

# З Высокага ў Амазонскую пушчу

*Гутарка з ксяндзом Янам Пахадойчам, ураджэнцам вёскі Высокае Карыцінскай гміны, місіянерам, які свае маладыя гады прысвяціў патрабуючым у Бразіліі.*


Фота з архіва кс. Яна Пахадойча

У цэнтры кс. Ян Пахадойч з дзяцьмі з Амазонскай пушчы

***— Дваццаць гадоў у зусім іншай краіне, у іншай рэчаіснасці, шмат кіламетраў ад хаты. Гэта падобнае на ссылку?***

— Дакладна, ссылка за кару (*смех*). Шчыра кажучы, я сам, пасля завяршэння вучобы ў семінарыі вырашыў паехаць кудысьці на місію. Абы-куды — Афрыка, Амерыка ці іншы куточак Зямлі. Тады я сустрэўся з біскупам Кіселем і расказаў яму аб маіх меркаваннях. Так і пайшло. Неўзабаве выслалі мяне ў Варшаву на гадавыя курсы партугальскай мовы і тэарэтычнай падрыхтоўкі да працы ў Бразіліі.

***— Не баяліся Вы пакідаць сям'ю, Польшчу, усё тое, што ўжо вядомае і блізкае?***

— Вядома, што крыху я баяўся. Але тады чалавек зусім інакш думаў. Я быў маладым чалавекам, для якога перспектыва працы на місіях не была нічым страшным. Хаця асабліва першы год быў цяжкі. Я апынуўся ў зусім іншай краіне, якая жыла зусім іншымі праблемамі. Сустрэў я людзей з зусім іншым менталітэтам і іншымі патрабаваннямі з боку Касцёла. Ну, там нават надвор'е іншае! Памятаю, што я выязджаў 6 лютага, у такую строгую зіму. У Польшчы было мінус 30 градусаў, а ў Рыо-дэ-Жанейра — 38 градусаў цяпла. Хацелася вяртацца дахаты, але на чужой зямлі трымала думка аб сораме, які буду адчуваць пасля таго, калі вярнуся першым самалётам у Польшчу (*смех*). І так я застаўся, а пасля года ўжо не адчуваў тугі па тым, што тут пакінуў. Прывык.

***— Дзе дакладна Вы служылі на місіях?***

— На самым пачатку я трапіў у Нітэрой. Гэта горад на паўднёвым усходзе Бразіліі. Налічвае ён каля паўмільёна жыхароў. Сам горад спалучаецца з Рыо-дэ-Жанейра мостам, які цягнецца над марскім залівам Гуанабара амаль трынаццаць кіламетраў. Там я працаваў шэсць гадоў пробашчам кафедры. Пазней перавялі мяне ў турыстычны гарадок. Там людзі жылі галоўным чынам з рыбалкі і турызму. Краявіды нібыта з паштоўкі. У сезоне мястэчка перапаўнялася турыстамі.

***— Так што мясцовасць, у якой Вы жылі, была даволі багатай?***

— Гэта не так. Скажу, што Бразілія з'яўляецца краінай поўнай кантрастаў. З аднаго боку шкляныя дамы, а з другога — галодныя людзі. Самое Рыо-дэ-Жанейра гэта горад акружаны морам трушчобаў. Некаторыя з іх паліцыя, хвалюючыся за сябе, кантралюе толькі з верталётаў. Людзі, якія там жывуць, маюць галоўным чынам праблемы з наркотыкамі. Ксяндзы-місіянеры працуюць у розных умовах. Дапамагаюць наркаманам, бедным дзецям, прастытуткам.

***— Мелі Вы выходныя ў час сваёй дваццацігадовай місійнай паслугі?***

— Здаралася раз на некалькі гадоў. Хаця пазней было даволі цяжка па той прычыне, што перавялі мяне ў лясы Амазонкі. А каб з іх выбрацца, трэба было на пачатку плысці лодкай, пазней ехаць на машыне, на цягніку і ў Рыо-дэ-Жанейра сесці на самалёт.

***— Як Вам жылося побач людзей, якія маюць зусім іншую культуру і так невялікія патрабаванні?***

— Існуе такое паняцце як інкультурацыя. Мне трэба было жыць так, як і яны жывуць. Індзейцы вельмі адкрытыя, вясёлыя. Зусім іншая ў іх ментальнасць. Яны любяць размаўляць. Нярэдка прыходзілі да мяне і дзяліліся сваімі думкамі. Не толькі жанчыны, але нават і мужчыны не саромеліся проста плакаць, расказваючы аб нейкай праблеме.

***— І як жывуць індзейцы?***

— Нескладана. Спрыяльны клімат дазваляе ім абмяжоўваць свае патрабаванні да мінімуму. Ядзяць яны амаль усё, што ўдасца ім злавіць. Малпы, вужы, кракадзілы. Яны не маюць звычкі рабіць нейкія запасы ежы. Калі ўпалююць звяра, не сушаць, не вэндзяць мяса, толькі што могуць з'ядаюць, а чаго ўжо не з'ядзяць, проста выкідаюць. А пазней часта галадаюць.

***— Вы таксама гэтым харчаваліся?***

— Так. Я еў усё, што і яны. Часта нейкія фрукты — карацей кажучы, корміць людзей пушча.

***— Як смакуе кракадзілавае мяса?***

— Кракадзілавае мяса вельмі напамінае ў смаку курацiну, асабліва мяса маладога кракадзіла. Яно з'яўляецца больш далікатным. Забыўся б дадаць, што індзейцы ніколі б не з'елі дэльфіна. Ён, паводле лакальных вераванняў, мае міфічныя асаблівасці. З ім звязаныя таксама разнавідныя легенды.

***— Якая легенда Вам запамяталася?***

— Ну, шмат іх было. Напрыклад, індзейцы вераць, што дэльфін можа пераўтварыцца ў чалавека. Пры гэтым такі пераўтвораны дэльфін можа прыйсці да вёскі на забаву і „зрабіць дзіця" нейкай дзяўчыне.

***— Дзяўчаты маюць добры аргумент, каб пазней апраўдацца перад бацькамі!***

— (*Смех*) На самай справе гэта адно з галоўных праблем мясцовага насельніцтва. Там ужо чатырнаццацігадовыя дзяўчынкі нярэдка нараджаюць. Пры гэтым, вядома, распаўсюджваюцца розныя хваробы.

***— Маючы на ўвазе становішча Касцёла, напэўна прэзерватывамі гэтыя людзі не карыстаюцца?***

— Прэзерватывы індзейцам раздаюць секты, якія з'яўляюцца сур'ёзнай пагрозай для пушчанскіх людзей. Лепшым метадам з'яўляецца палавая ўстрыманасць.

***— Вы штодзень адпраўлялі імшы? Многа людзей удзельнічала ў набажэнствах?***

— Апрача паслугі ў вясковай капліцы, я таксама наведваў акалічныя касцёлы. Былі такія, куды трэба было плысці лодкай дваццаць восем гадзін. А яшчэ ў больш аддаленых капліцах людзі маглі прысутнічаць у імшы толькі раз у год. Штодзень імшы адпраўляліся толькі ў вёсцы, у якой я жыў. Вяртаючыся да пытання, сапраўды нямнога людзей прыходзіла на імшы. Яны не мелі так укаранелай веры. Адначасова не клапаціліся аб сваю будучыню. Паказвалі пальцам уверх, што ўсё залежнае ад Магутнага. Бывалі такія сітуацыі, што калі хтосьці памёр з сям'і, яны не маглі пагадзіцца з гэтым фактам настолькі, што нават год не прыходзілі ў касцёл. Яны абвінавачвалі Бога ў смерці блізкай асобы.

***— Так што галоўнай Вашай задачай як місіянера з'яўлялася адпраўлянне імшы і такім чынам распаўсюджванне хрысціянства?***

— Так, але не толькі. Як я ўжо раней згадаў, тамтых людзей трывожаць секты. Яны выкарыстоўваюць прастату тубыльцаў, прымушаюць іх аплачваць даніну. У вёсках, дзе існуе капліца, дзе жыве місіянер сектанты не паяўляюцца. Хаця не толькі гэта ўплывае на сацыяльна-бытавую сітуацыю жыхароў Амазонскай пушчы. Лакальныя ўлады, палітыкі цікавяцца імі толькі перад выбарчай кампаніяй. Пазней зусім забываюцца аб іх патрэбах. Тыя людзі настолькі не верылі ў бескарыслівасць людзей звонку, што калі ўдалося мне прывезці кілаграм лекаў, яны не ведалі як дзякаваць. Памятаю, што я тады прывёз усяго дваццаць пяць кілаграмаў лякарстваў — па кілаграме для кожнай капліцы, скажам парафіі. Удзячнасць гэтых людзей была вялікая.

***— Разумею, што Вы, як місіянер, карысталіся пашанай лакальнага насельніцтва?***

— Так, магчыма большай, чым тут.

***— Амазонская пушча была ўжо апошнім месцам Вашай паслугі?***

— Не, яшчэ перавялі мяне ў такую гарыстую мясцовасць, таму што я ў пушчы захварэў на малярыю.

***— Мінула сем гадоў, калі Вы вярнуліся з місіі. Можа гэта здаецца ўжо чымсьці далёкім, бо аб гэтым усім расказваеце так без ніякіх эмоцый.***

— (*Смех*) Індзейцы таксама звярталі ўвагу на тое, што мне цяжка даецца абмен сваімі думкамі. Я з'яўляюся бадай скрытай асобай.

***— Тым больш дзякую за гутарку.***

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**

## Кузаўскія запусты

Традыцыя арганізавання запустаў у Кузаве працягвалася да сямідзесятых гадоў. Пасля пачала занікаць. У час майго кавалерскага стану выглядала гэта так:

На забаву дамаўляліся хлопцы з дзяўчатамі тыдняў два наперад. Кампанія наша лічыла чалавек дваццаць. Хлопцы арганізавалі забаву, наймалі музыкантаў. Юнакі скідваліся па дваццаць злотых, прыносілі па бутэльцы гарэлкі. Дзяўчаты рыхтавалі пачастунак. Кожная несла штосьці іншае на закуску. Былі мясныя вырабы дамашняй вытворчасці, галубцы, тушаная капуста, марынаваныя грыбочкі, студзіны, квашаныя агурчыкі, вінегрэты, здобнае пячэнне, духмяны аржаны хлеб, кансерваваная і смажаная рыба ды шмат іншых смакоццяў. Сталы ўгіналіся ад ежы і напіткаў. Музыканты былі свае. Самым папулярным у нас быў Грыша Рэпка, мой дваюрадны братуха. Яму пад пяцьдзесят тады было. Іграў ён на гармоніку-двухрадцы. Бубнаром быў ягоны сябра з Кляшчэляў. Да кампаніі бралі яшчэ трубача Сасноўскага. Гэта быў на тадышні час сапраўдны аркестр з вясковага панадворка.

На застолле збіраліся да дзяўчыны, у якой было большае памяшканне. Найчасцей запусты ладзілі ў Нюткі Асыпавай. Дзядзька Асып, бацька сяброўкі, рады прымаў маладых. Ды і цётка Марыя добразычлівай кабетай была, свойскай закускі не скупіла... Застолле пачыналася з двух гадзін пасля абеду і доўжылася да змроку. Затым развяселеная кампанія падавалася ў святліцу на забаву. Пры нагодзе кузаўская кавалерка запрашала на танцы моладзь з наваколля. Святліца заўжды была бітком набітая. Папулярнымі танцамі былі тады танга, вальс, факстрот, полька і абэрак. Асаблівасцю ў выкананні Грышы Рэпкі лічыўся вальс „Амурскія хвалі". Пры гэтым трэба адзначыць, што кузаўскі музыкант быў харошым спеваком. Ведаў ён шмат польскіх і савецкіх песень. А гэта дадавала танцам асаблівага атракцыёну. Забава на запусты доўжылася далёка за поўнач.

З панядзелка пачыналася Масленіца. З арганізаваннем катання на санках у Кузаве не было праблемы. Коней у вёсцы было шмат. У запрэжку дабіралі самых лепшых жарабцоў. Вупраж здобілі кудзерамі з каляровых нітак, а на шыю надзявалі „шэлэстуны", адмысловыя званочкі. Перад імпрэзай каня чысцілі скрэблам, каб скура свяцілася бляскам. Хвост звязвалі ў вузел. На Масленіцу моладзь збіралася апоўдні. Карагод састаўляла пяць-шэсць падвод. Сядзенні дзяўчаты прыкрывалі каляровымі капамі. На санкі сядалі парамі, дзяўчаты з хлопцамі. На першых санках ехаў музыкант. Катанне з песняй і музыкай доўжылася некалькі гадзін і завяршалася заўжды супольным застоллем і забавай у святліцы. Затым пачынаўся Вялікі пост.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Віншаванні

„Белавежцы" шчыра віншуюць
Георгія ВАЛКАВЫЦКАГА
паэта, празаіка, шматгадовага рэдактара „Нівы", пачынальніка беларускага літаратурнага руху ў пасляваеннай Польшчы, са слаўным 90-годдзем
і зычаць моцнага здароўя.

Управа БЛА „Белавежа"

## Віншаванні

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" віншуе
Георгія ВАЛКАВЫЦКАГА
заснавальніка і шматгадовага рэдактара нашай газеты з юбілеем 90-годдзя і жадае моцнага здароўя і жыццёвага аптымізму.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Наша „Гавэнда-2013”



Фота Анны КАНДРАЦЮК

22 лютага 2013 года ў Ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы адбыўся чатырнаццаты выпуск „Беларускай гавэнды”. У конкурсе прыняло ўдзел няшмат удзельнікаў, як ніколі дагэтуль, усяго 14 вучняў.

Вучні з Гімназіі ў Нараўцы і ў гэтым годзе не падвялі і свае гавэнды расказалі, як заўсёды, класна. Мы расказвалі смешныя тэксты, якія падрыхтавала нам нашая настаўніца беларускай мовы Ганна Кандрацюк. Адам Харкевіч распавядаў пра крызіс і спосабы яго пераадольвання, Лукаш Марчук успамінаў сваё шалёнае дзяцінства і расказваў, як бацькі стараліся выхаваць яго на прыстойнага чалавека пры дапамозе „лупцоўкі”. Ці ім гэта ўдалося ведаюць усе тыя, якія пазнаёміліся з Лукашом.

Я, Наталля, як сапраўдная кабета, расказала пра метамарфозу, якую „зафундавала” сабе жанчына недацэненая сваім мужам. Што з гэтага атрымалася, ведаюць тыя, якія слухалі расказ. Аказалася, што нашыя выступленні спадабаліся не толькі публіцы, але таксама камісіі, бо хлопцы занялі другія месцы, а я — першае. У школу мы вярнуліся вельмі задаволеныя не толькі дыпломамі, але таксама ўзнагародамі.

Мы цешымся, што ладзяцца такія конкурсы. Дзякуючы ім вывучаем літаратурную мову, захоўваем вясковую гаворку. На конкурсе можна паказаць таксама свае акцёрскія таленты і пры тым яшчэ пасмяяцца ад душы.

Тут варта яшчэ дадаць, што вяртаючыся ў школу на „гмінным мерседэсе” мы дайшлі да вываду, што і машына, і яе кіроўца, спадар Владэк, прыносяць нам шчасце. Заўсёды, калі вязе нас на любы конкурс, мы вяртаемся з узнагародамі. Ён дзейнічае як талісман.

**Спадару Владку перадаем сардэчнае прывітанне!**

**Наталля ВАСЬКО**
**Гімназія ў Нараўцы**

# Мая і Рэдбуль

Пра сяброўства чалавека з жывёламі складзена многа прыгожых гісторый і казак. Цягам апошніх дзён усе гаварылі пра сабачку Чарка, які выратаваў ад смерці загубленую ў лесе дзяўчынку. Сабачка сагрэў дзіця сваім целам і не дазволіў яму замерзнуць. Ён як сапраўдны герой бараніў дзіця і цешыўся, калі на ратунак прыйшлі людзі. Звычайны дварняк Чарак захапіў усю Еўропу, ды не толькі...



З чуласцю ўспрынялі мы верш Маі Радзіванюк, якая марыць пра свайго хамяка. Хамячок Рэдбуль, хоць названы так як энергетычны напой, самы сімпатычны звярок у Нараўчанскай гміне. Ён сцеражэ ўвесь дом і сямейку, калі ўсё патанае ў цемры. Ён не пускае ў дом начніц, якія злятаюцца ноччу, каб разбурыць добры і прыемны сон.

**ЗОРКА, фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК**



Мая РАДЗІВАНЮК

## Хамяк

Я мамулю так благала,
і плакала, і крычала,
каб хамяка мне падаравала.
А яна ўсё адмаўляла,
часам нават накрычала,
што наш кот як пташынку
злапае яго ў адну хвілінку.
Я ўсё не адпускала
і на маму націскала,
і мама ўжо не стрывала
і хамяка мне падаравала.
Я ад радасці крычала
і маме дзякавала.
Хамяка Рэдбулем назвала
і вельмі пакахала.

# Вершы Віктара Шведа

## Цікавая кніжка

Бібліятэкарка спытала Мішку:
— Ты прачытаў так хутка кніжку?
— Я прачытаў яе свядома.
— А кніжкі змест табе вядомы?

— Чытаў я хутка, прызнаюся,
І кніжкі змест уявіць мусіў.
І так шкадую я да болю,
Што не злаўлю яго ніколі.

## Верхалаз

Настаўнік п'яніцу-бацьку
Скардзіцца на сынка Вацка,
Які заўсёды ўпарта
Скача па школьных партах.

— Яго дзед быў верхалазам,
Сын гэта пераняў адразу.
— Каб сын схільнасці меў па бацьку
Паўзуном убачылі б Вацка.

# Загадка (№ 10-13)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 24 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Даўганогі землямер
Схапіў жабу за каўнер,
Па траве павалачыў,
У канаве намачыў,
Вострым носам дзеўбануў,
Уздыхнуў і — праглынуў.
(Васіль Вітка)

**Адказ на загадку № 6-13: Вожык.**

Узнагароду — фламастары — выйгралі Габрыела Красько і Войтак Куптэль з Арэшкава. Віншуем!



# У гасцях у „шасцёрцы”

Яшчэ ў лютым вучні чацвёртых класаў Комплексу школ № 3 Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы прымалі ў сябе ў гасцях паэтэсу Міру Лукшу. Запрасілі аўтарку ў сваю школьную Рэгіянальную хатку, сарганізаваную ў падвалах школы настаўніцай Гражынай Паўлючук і падрыхтаваную іхнімі бацькамі. Тут, пасля ўрокаў, не толькі вучні, якія вывучаюць беларускую мову, сярод экспанатаў з бабуліных хатаў дэкламавалі вершы аўтаркі са зборніка „Жывінкі з глыбінкі” і слухалі яе вершаў, вядомых з „Зоркі”. Найбольш усім спадабаўся любімы верш Міры Лукшы — пра тоўстага і пухнатага ката Фелікса, і кожны хацеў здабыць гэты верш з аўтографам. А і іншыя ім дасталіся, часам і па пару асобнікаў кожнаму хто хацеў — яны прыдадуцца для дэкламацыі.

Найбольш са сваёй дэкламацыяй пастараліся Наталля Пліс, Наталля Саўчук, Караліна Баравік, Паўліна Драўноўская, Амэлька Швед, Марта Нестэрук, Дар'я Місяюк і Юлька Корч. А ў тым, што самі прабуюць пісаць, прызналіся Вераніка Ляўчук (вершы), Габрыся Жменька („рыфмаванкі”) і Анэта Цырук, якая піша апавяданні і мае ўжо раздзелы кніжкі! І адразу ўсе пасябравалі са старэйшай сяброўкай па пяры на фейсбуку!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адкуль на свеце мядзведзь?

***(легенда пушчанскага народу)***

Гэта было даўным-даўно, калі яшчэ людзі ў далёкія краі пехатой хадзілі. Іх сустракалі з павагай, запрашалі на начлег, садзілі за стол разам вячэраць. Падарожнікі — людзі вялікія, ведалі як аддзячыць за гасціну і зычлівасць. Яны распавядалі пра замежныя краі, пра гарады з залатымі купаламі, пра ўсякія цуды і сусветныя дзівы. Людзі верылі, што пад вобразам падарожніка можа скрывацца сам Бог. Карацей кажучы, падарожнікаў шанавалі. Але, як кажуць, у самай прыстойнай вёсцы заўсёды знойдзецца хоць адзін дурань. Вось і тут адзін неразумны чалавек захацеў пасмяяцца і напалохаць сустрэтага падарожніка. Ён апрануў навыварат кажух і залез пад мост, па якім меў ісці незнаёмы вандроўнік. Прайшло шмат часу, а таго няма. „Дзе ж ён падзеўся? — думае жартаўнік. — Вылезу, пагляджу”.

Вылез дурны з-пад моста і вачам не даверае. Вось бачыць, стаіць той чалавек і смяецца.

— А ты чаму зубы вылупіў і не ідзеш?! — хацеў клікаць вясковец. І сам сябе спалохаўся, бо з яго горла вырваўся люты рык. А як хацеў падняцца на ногі, рук ад зямлі адарваць не можа. Узяўся памацаць кажух, а той да цела прырос. Няшчасны жартаўнік глянуў у ваду і жахнуўся. Замест яго стаяў касалапы мядзведзь.

З яго, кажуць, пад пушчай, усе мядзведзі пайшлі. А тыя, што ў цырку, яго родныя браты і сёстры.

**ЗОРКА**

# Соня - лаўрэатка!

Нядаўна мы пісалі пра сёстры Соню і Лену Сульжанак з Валілаў-Станцыі. Соня апавядала пра сваю падрыхтоўку да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Яна была адзінай фіналісткай на ўсю Гарадоцкую гміну. 22 лютага мы атрымалі радасную навіну: „Соня — лаўрэатка па беларускай мове” — напісала нам мама чацвёртакласніцы. Вестку пра поспех дачкі яна змясціла на фейсбуку. Усе віншавалі сямейку лаўрэаткі з поспехам. Мы таксама далучаемся да пажаданняў і зычым далейшых поспехаў.

**Зорка**

**фота Г. Кандрацюк**



# Музыка з кайфам

## Гайнаўская моц!




Вяртаюся да сваіх думак аб завершаным фестывалі „Беларуская песня — 2013” не без прычыны. З аднаго боку заўсёды хочацца пакрытыкаваць эстрадную эстэтыку, з другога — пахваліць, што ёсць каму спяваць, што хочацца спяваць і яшчэ рабіць гэта на сапраўды прыстойным узроўні. Такі быў і сёлетні фестывальны гала-канцэрт.

Яркі канцэрт удалося правесці, між іншым, таму, што прайшоў ён у галоўнай канцэртнай зале Падляшскай оперы і філармоніі. Амаль 900 гледачоў спантанна і цёпла рэагавала на сцэнічныя падзеі. Мультымедыйная сцэнаграфія таксама дазволіла прыдаць канцэрту выгляд вялікага шоў. Усё ж такі гэта выканаўцы гарантуюць якасць і ўражанні. Трэба сказаць, што журы папрацавала сумленна і выбар артыстаў, якія прэзентаваліся ў мінулую суботу, атрымаўся выдатны. З майго пункту гледжання выбар проста быў трапны і справядлівы. Класнымі былі выступленні гасцей з Беларусі, хаця яны надалей у эстэтыцы, якая спалучае фальклор і постсавецкую эстраду. Такіх інспірацый хапала таксама і ў падляшскіх выканаўцаў. Але я імкнуся пахваліць моладзь. Ад яе залежыць будучыня фестывалю і ўвогуле беларускай музыкі на Беласточчыне. Ганарыцца трэба напэўна двума калектывамі, якія працуюць якраз у Гайнаўцы: „Знічкай” з Гайнаўскага белліцэя і групай са „Студыі эстраднай песні” Гайнаўскага дома культуры. Цікавая справа, бо кіраўнічка калектыву, які працуе пры Гайнаўскім доме культуры, Марта Грэдаль-Іванюк вучылася і развівалася ў свой час у „Знічцы” пад вокам Бажэны Ляўчук. Гэта цудоўны прыклад таму, які патэнцыял людзей вяртаецца на родную зямлю і працуе дзеля наступных пакаленняў.

— Гэта для нас незвычайны вопыт выступіць на такой сцэне, — сказала пасля гала-канцэрта Марта Грэдаль-Іванюк. — І спадзяюся, што фестываль будзе працягвацца надалей і нам дасць магчымасць здабываць вопыт.

А калі я павіншавала ёй цудоўнай працы, якая вядзецца ў Гайнаўцы, прадставіла мне адну са сваіх яркіх салістак, якую я чула ўжо раней:

— Гэта мая хросная дачка....

Гэта доказ, што чарговае пакаленне прыходзіць і можна яго таксама заражаць культурай, мастацкай працай, такім ці іншым відам беларускасці.

Гэта зусім так, як у іншай галіне беларускай культуры робіць Аня Фіёнік, якую цікавіць праца з белым голасам і старадаўняй беларускай культурай. Яна са сваім калектывам „Жэмэрва” таксама стала лаўрэатам фестывалю. Падобную справу робяць беластоцкія „Каласкі”, якія чарговы раз сталі лаўрэатамі.

Спяванне дазваляе нам прыгажэй жыць і гэта вы, маладыя, перадавайце, практыкуйце, развівайце.

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 10

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 6:**

**Кропка, матч, ла, душ, ваш, пушча, наш, шчасце, Ікар, атам, абраз, спатканне. Ас, падушка, гушча, на, Шчара, Ас, бок, цар, планета, каша, азон, шум.**

**Узнагароды, запісныя ніжкі, выйгралі Адам Харкевіч, Магда Пташынская, Наталля Марчук з Нараўкі, Арыядна Бакер з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, Кася Якімюк, Якуб Цішук з ПШ № 4 у Беластоку, Павел Мамотка, Патрык Мартынюк з Бельска-Падляшскага, Караліна Кадлубоўская з Орлі, Наталля Ніканюк з Арэшкава. Віншуем!**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Prąd / Hamak | | Prawo | | Ganek |
| | Tom | Sad | | Brzoza | | | |
| | Pies | | | | | | |
| Chomik / Wieża | | | | | | Hymn | |
| | Droga | | | | | | |
| | Żuk | Konik | | | | | |
| | | | | | | | |
| | | | Akno | | | | |

# Некалькі слоў пра Сакрата Яновіча

Ганна МОРДАНЬ

Найбольшую славу і прызнанне чалавек найчасцей здабывае пасля смерці. Тады ў яго адрас кіруюцца самыя лепшыя словы павагі і пашаны, падкрэсліваюцца ягоныя заслугі і разліваецца захапленне ягоным талентам. Так адбываецца пэўна таму, што канкурэнты перастаюць бачыць у ім пагрозу і выказваюць некалькі пафасных фраз у гонар адышоўшага з нашага свету. У эпоху інтэрнэту выбух захаплення і адначасова выказванне жалю па прычыне страты аўтарытэта праходзіць усё часцей у сацыяльных сетках — там без лішняга высілку можна ўпадабаць спасылку, працытаваць словы памерлага, падзяліцца здымкамі па тэме. Гэта становіцца ўжо пэўнай тэндэнцыяй. Такая рэфлексія ўспплыла ўва мне пасля смерці лаўрэаткі Нобелеўскай літаратурнай прэміі Віславы Шымборскай. Нядаўна ўзнікла падобная сітуацыя, калі ў нашым асяроддзі не стала знакамітага пісьменніка, ідэолага і дзеяча Сакрата Яновіча.

Магчыма, нехта палічыць мяне такім жа „каньюнктурным” прыхільнікам асобы Сакрата з Крынак, тым не менш не ўстрымаюся ад напісання некалькіх слоў пра ўплыў ягонай ідэі на маё разуменне беларускасці і яе значэння.

Не ведаю, як гэта сталася, што мне вядомым стала прозвішча Яновіча. Яно паяўлялася ў размовах дарослых, у беларускіх радыёперадачах і часопісах. Хаця ў ранняй маладосці я наогул не цікавілася занадта нічым, апроч гульняў на панадворку і рыхтаваннем урокаў, калі б тады нехта ў мяне спытаў, хто такі Сакрат Яновіч, я без сумневу адказала б, што вялікі беларус — не ведаючы нават чым матываваць адказ. Не ўзгадваю, каб у пачатковай школе на ўроках беларускай мовы знаёмілі нас з постацямі літаратараў Беласточчыны. Гэта былі часы, калі ў школах не ладзіліся аўтарскія сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. Пра некаторыя творы Сакрата Яновіча ішла размова ў гімназіі, але і тады не ўдалося мне гэта надта ашаламляльным — тэкст у падручніку прачыталі, адказалі на складзеныя да яго рэдактарам пытанні — вось і ўсё. Цяпер усведамляю, што без пэўных ведаў і вопыту, не спазнаўшы сябе самога і свайго народа, гэтыя тэксты немагчыма ўспрыняць і зразумець як належыць, а прынамсі зрабіць для сябе нейкія асабістыя высновы. Нават крыху пазней, калі ў парыве падлеткавага патрыятызму ўзнікла моцнае жаданне пазнаёміцца з прафесіянальнай літаратурай, неяк не склалася дакладна прачытаць знойдзеную на татавай паліцы кніжку „Пад знакамі Арла і Пагоні”. Да творчасці Яновіча я вярнулася толькі праз пару гадоў, за гэты час праслухаўшы амаль усе альбомы беларускамоўных рок-гуртоў, начытаўшыся Глобусавых казак і перагарнуўшы дзесяткі архіўных нумароў „Часопіса”. Напрыканцы першага года вучобы на аддзяленні польскай філалогіі, шукаючы матэрыялаў пра лацінамоўнага рэнесансавага паэта Міколу Гусоўскага, патрапіла я ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта на паліцы з беларускай літаратурай. Маю ўвагу прыцягнулі зборнікі апавяданняў і „Nasze tysiąc lat” — размовы Хмялеўскага і Яновіча. Нарэшце я змагла ўсведаміць, чаму званне знакамітага беларуса Сакрату Яновічу падыходзіць як нікому іншаму. „Białoruś, Białoruś” і ўрыўкі з дзённікаў я праглынула імгненна. Погляд на беларусаў у Польшчы, беларусаў у СССР і потым у беларускай дзяржаве, аналізы і роздумы, якія выяўляў у сваіх кніжках Яновіч, неацэнныя пры фармаванні светапогляду маладога чалавека. Чытаючы іх, я атрымала адказы на шматлікія пытанні, а чарговыя ўзнікалі ў маёй галаве. Яны прымушалі пераасэнсаваць многае пачутае і прачытанае раней, паказвалі новае, важнае.



Фота архіў Нівы

Жаль, што не прыйшлося мне быць у тым пакаленні, у тым асяроддзі, якое магло непасрэдна выкарыстаць асобу Сакрата Яновіча. Паслухаць ягоных мудрых разважанняў пра гісторыю і літаратуру, у якіх ён прэзентаваўся не толькі як даследчык, але філосаф і творца. Ставіць пытанні, карыстацца магчымасцю размовы. Распавядаць пра хваляванні і адчуваць, што ёсць чалавек — надзейная апора беларушчыны, да якога можна звярнуцца з усё адно якою, палітычнаю ці моўнаю праблемай.

Яновіч знаёміў выхадцаў з беларускіх вёсак Беласточчыны з нацыянальнымі ідэямі, пра якія, мабыць, і не чулі іхнія бацькі і дзяды. Разгарнуў самасвядомасць, паказаў іншы воблік беларускасці — ужо не мужыцкі, рабскі. Ён дбаў пра чысціню мовы, вымаўленне, дакладнасць, заангажаванасць у справу. Бачыў і паказваў памылкі, не захапляўся абы-чым. Вартасць свайго таленту ўсведамляў без фальшывай сціпласці. Умеў паглядзець на беларускую культуру як на кампанент еўрапейскай цывілізацыі, а не як на вечна прыгнечаную польскім або рускім панам, і, на маю думку, паспяхова даказаць гэта хістаючымся.

Не ведаю, ці магу выказвацца ад імя ўсяго майго пакалення беларусаў, паўбеларусаў, польскіх беларусаў, ці як яшчэ называюць сябе мае равеснікі. Магу сказаць абсалютна асабіста, што дзякуючы асобе Сакрата Яновіча я шмат чаму навучылася, шмат у чым пераканалася, умацавала свой светапогляд. Такога чалавека, на мой погляд, раней у нашым асяроддзі не было, і — цяжка гэта ўсведамляць — што больш і не будзе. На заканчэнне мне насоўваецца паэтычная фраза знакамітага Анатоля Сыса:

*Як па зорках, па расе*
*твой апошні шлях праляжа,*
*памірай, а жыта сей.*
*Рунь пра сейбіта раскажа.*

# Пакінуў па сабе добры ўспамін

Юрка БУЙНЮК

Зусім нядаўна, 17 лютага, памёр Сакрат Яновіч. Паводле мяне, Сакрат Яновіч быў і ёсць найбольш вядомым беларускім пісьменнікам у Польшчы, а таксама адным з найбольш вядомых беларускіх пісьменнікаў, якія ўвайшлі ў гісторыю сусветнай літаратуры. Гэта быў таленавіты майстар слова, які большасць свайго жыцця прысвяціў творчасці. Безумоўна, я выхаваўся на творах Сакрата Яновіча. Добра памятаю, як у час маіх студэнцкіх гадоў мы з сябрамі-аднакурснікамі перачытвалі ягоную кнігу „Białoruś, Białoruś”. Таксама я чытаў фельетоны Яновіча ў „Часопісе” ды заўжды цаніў іх за тое, што ў большасці іх пісьменнік пісаў праўду, а ў асноўным на беларускай мове. Калісьці на занятках па граматыцы беларускай мовы наш выкладчык д-р Васіль Сегень пра Яновічавы фельетоны сказаў: „Як памрэ Сакрат Яновіч, то „Czasopis” стане поўнасцю польскай газетай, бо ніхто больш там не будзе пісаць па-беларуску”. Сакрат Яновіч заўжды з характэрным для сябе гумарам каментаваў нашую беластоцкую рэчаіснасць. Апісваў важныя справы, грамадска-палітычныя працэсы ды ўмовы, з якімі — як прадстаўнік беларускага этнасу — не пагаджаўся. Добра памятаю, як у адным з фельетонаў Сакрат Яновіч клапаціўся пра дэмаграфічны спад ды адгаворваў маладых беларусаў выязджаць у эміграцыю ў заходнюю Польшчу або Еўропу. Аднак Яновіч быў і спрэчнай асобай, з якім я да канца не пагаджаўся. Прыкладам быў фельетон, у якім пісьменнік крытыкаваў фестываль „Беларуская песня” ды дзейнасць БГКТ. Дарэчы, сам Сакрат Яновіч быў адным з заснавальнікаў гэтай арганізацыі. Добра памятаю дзень, калі, дзякуючы Літаб'яднанню „Белавежа”, 26 чэрвеня 2006 года з'явіўся мой дэбютны зборнічак вершаў „Субота ў Малінніках”. Хаця ў маёй творчасці няма ні аднаго верша, які хваліць камунізм (я нават не памятаю часоў камунізму ў Польшчы), то Сакрат Яновіч „ахрысціў” мяне „паэтам пралетарыяту”. Але, як не гаварачы, гэта быў вельмі пазітыўны чалавек. Сакрат Яновіч як мала хто з „белавежцаў” меў вельмі добры кантакт з моладдзю, чаго доказам могуць быць абразкі з ягоных аўтарскіх сустрэч.

Добра памятаю як у траўні 2001 года нашая выкладчыца д-р Лена Казлоўская-Глагоўская нас, студэнтаў беларускай філалогіі, забрала ў Крынкі. Гэта была нашая непаўторная „хатняя сустрэча” з Сакратам Яновічам. Памятаю, як нас пісьменнік завёў на паддашак, адкуль выплывалі ў свет фельетоны ды творы Яновіча. Там Сакрат Яновіч умела ды цікава расказваў нам пра сваё дзяцінства ды маладосць, праведзеныя ў Крынках. Памятаю, як пісьменнік успамінаў свой паэтычны дэбют. А вершы Сакрат пісаў дзеля таго, каб закахалася ў ім яго сяброўка-аднакласніца. Тое, што дзяўчына не звярнула ўвагі на маладога Сакрата-паэта ў асноўным спрычынілася да таго, што Яновіч заняўся прозай, якой прысвяціў усё жыццё і якая прынесла яму найбольшую славу. Тады пані Лена згадала, што я пішу вершы. На тое Сакрат Яновіч сказаў, што ў сусветнай літаратуры настолькі многа паэтаў, што можна з іх стварыць вялікую армію ды паслаць на вайну. Тады мы ўсе засмяяліся. Дарэчы, у „Белавежы” заўжды было намнога больш паэтаў чымся празаікаў. Пакойны Сакрат Яновіч меў моцны ўплыў на творчасць Міхала Андрасюка, які лічыў яго сваім узорам. На адным з семінараў „Белавежы” пісьменнік прызнаўся ўсім, што не ездзіць на аўтарскія сустрэчы, бо там яго абражаюць. Яновіча паважалі літаратурныя крытыкі з Беларусі. Доказам таму можа быць прадмова Дзмітрыя Бугаёва да збору апавяданняў Уладзіміра Караткевіча „Чазенія”, у якой крытык працытаваў словы Яновіча. Сакрат Яновіч быў характэрным чалавекам, бо з дыстанцыяй ставіўся да сваёй творчасці ды ўвогуле да абставін, якія яго сустракалі ў творчым жыцці. Дарэчы, памятаю яшчэ адну смешную сітуацыю ў час візіту ў хаце Сакрата Яновіча. Калі пісьменнік расказваў пра сваё жыццё, на дварэ было цёпла і на паддашку акно было адкрытае насцеж. Сакрат сядзеў плячыма да акна, з якога лунала белая-белая занавеска, якая дакраналася галавы пісьменніка. Тады Яновіч смешна засацыяваў фіранку з сукенкай маладой дзяўчыны. Ізноў мы ўсе шчыра засмяяліся. Наконт смешных сітуацый, прыгадаўся мне расказ маёй сястры, калі тая вучылася ў гімназіі ў Орлі. У час аўтарскай сустрэчы з Сакратам Яновічам вучні арлянскай гімназіі вельмі гучна вялі сябе. Тады госць падкрэсліў, што вучні паводзяць сябе быццам дзікія малпы ў джунглях. Тады ўсе вучні супакоіліся. Думаю, што гэта не ўсе прыклады, што Сакрата Яновіча мы, маладыя чытачы, будзем добра ўспамінаць ды цаніць за яго жартаўлівую, пагодлівую натуру. Гэта прыклад, што Сакрат Яновіч меў вельмі добры кантакт з моладдзю і думаю, што аставіў па сабе не адзін добры, сімпатычны ўспамін. Шкада, што пісьменніку не пашчасціла са здароўем. З году на год адчуваў ён сябе вельмі слаба, рэдка прымаў удзел у аўтарскіх сустрэчах. Шкада, што ў не так надта пажылым узросце адышоў ад нас так вартасны ды таленавіты пісьменнік, а таксама непаўторная і асаблівая асоба, якой безумоўна быў Сакрат Яновіч.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Браньскам

Аўтобус, што едзе з Браньска ў напрамку Цеханоўца, спыняецца ў Рудцы перад комплексам будынкаў, дзе працуе сельскагаспадарчая школа. З Браньска ў гэтую школу прыехалі тры дзяўчыны і адзін хлапец — здавалася б, што на вёсцы цяпер больш хочуць гаспадарыць дзяўчаты; крыху раней на вёсцы аставаліся толькі кавалеры... Вуліцамі Рудкі ў тую ж школу спяшаецца мешанае маладое пакаленне — будучыя кармільцы перасяляючагася ў гарады насельніцтва.

Сельскагаспадарчая школа ў Рудцы займае колішні палацавы комплекс. Палац быў там пабудаваны за сродкі драгічынскага старосты Аляксандра Асалінскага ў другой палове XVIII стагоддзя. Раней Рудка належала магнацкім родам Глябовічаў і Кішкаў, з паловы XVII да пачатку XX стагоддзя была ўласнасцю Асалінскіх, а пазней заўладалі ёю Патоцкія.

Партал Рудчанскай гміны: „Pod koniec XVIII w. miejscowość zamieszkiwali głównie katolicy. Około 1790 r. znajdowała się tu również kilkudziesięcioosobowa grupa Żydów, którzy założyli swój samorząd. Znacznie mniej było unitów i ewangelików. W połowie XIX w. *dobra rudzkie* składały się z 10 folwarków: *Rudka, Olendy, Mień, Koryciny, Siemiony, Targowisk, Aleksandrowo, Grodzisk, Kabacki, Kobyla* oraz dwudziestu wsi. W latach 20. [XX wieku] obszar dóbr wynosił około 6950 ha. W kolejnych latach Potoccy parcelowali i zalesiali folwarki. W 1927 r. dobra rudzkie przejął ostatni właściciel majątku, Franciszek Salezy Potocki, wieloletni dyrektor Departamentu Wyznań w Ministerstwie Wyznań, Religii i Oświecenia Publicznego. W trakcie wojny sowieci urządzili lotnisko, a majątek upaństwowili. W 1941 r. Niemcy przejęli dobra i zarządzali nimi do ponownego przejęcia przez sowietów. W 1944 r. majątek rudzki został upaństwowieniu na podstawie dekretu PKWN. Ziemię objął państwowy zakład rolny, lasy dworskie upaństwowiono".


Палац у Рудцы


Касцёл у Рудцы

Пра Францішка Патоцкага даведаўся я нямнога. Вікіпедыя: „W 1930 reprezentował rząd w rozmowach z Autokefalicznym Kościołem Prawosławnym w Polsce. Dążył do związania Cerkwi a przede wszystkim kleru prawosławnego z państwem. Stworzył wydział teologii prawosławnej na Uniwersytecie Warszawskim, był inicjatorem transmisji nabożeństw prawosławnych w Polskim Radiu (opracował projekt dekretu równouprawnienia wyznań w Polskim Radiu). Ministerstwo Spraw Wewnętrznych i Ministerstwo Spraw Wojskowych prowadziły jednak własną politykę wobec prawosławia, latem 1938 wyburzono na Lubelszczyźnie 114 cerkwi, próbowano administracyjnie nawracać na katolicyzm; złożył dymisję we wrześniu 1938". Міраслава Папежыньска-Турэк у сваёй абшырнай кнізе пра адносіны міжваеннай польскай дзяржавы да Праваслаўнай царквы не выяўляе ягонай больш канкрэтнай пазіцыі. Магчыма, што падаваўся ён у адстаўку ў знак пратэсту супраць цвёрдых дзеянняў сілавых ведамстваў, раздзяляючы погляды Станіслава Мацкевіча-Цата, які быў пісаў: „Ta cerkiewna historia obciąży Polskę, nas wszystkich, naszą politykę zagraniczną, nasze większe plany polityczne". Магчыма, што тыя буйнейшыя палітычныя планы прадбачвалі дзеянні больш вытанчаныя, „мяккія", для дасягнення такіх жа мэт, якія вызначылі сабе сілавыя ведамствы.

Граф Францішак Патоцкі, атрымаўшы *dobra rudzkie*, ужо ў 1928-30-х гадах прафінансаваў рамонт рудчанскага касцёла, пабудаванага Асалінскімі ў другой палове XVIII стагоддзя. Калі Асалінскія перaймалі Рудку, „kościół rudzki znajdował się w bardzo złym stanie i dlatego został zamknięty z polecenia Konsystorza Janowskiego wydanego po wizytacji 14 grudnia 1737 roku". Толькі пра гэта паведамляе партал Драгічынскай дыяцэзіі, не паведамляючы, дзе маліліся вернікі на працягу наступных звыш дваццаці гадоў.

Ад касцёла адыходзіць вуліца Алендзкая, якая, як сама назва падвязвае, вядзе ў напрамку вёскі Аленды, якая таксама была ў ліку *dóbr rudzkich*. Выдадзеная ў 2012 годзе манаграфія *Dzieje gminy Brańsk i okolic*: „Według herbarza hrabiego Uruskiego Światosław z Olendów miał dwóch synów: Mikołaja, dziedzica na Olendach 1530 roku, i Stanisława, dziedzica wielu dóbr w ziemi drohickiej. To właśnie stąd miał się wywodzić słynny ród Olędzkich herbu Rawicz, który doszedł do kilku senatorskich dostojności i wielkiego majątku".

Адкуль пайшла назва Алендаў? Падалося мне, што не вытокі такія ж, што і ў назвы Алендраў каля Сямятыч — значыць ад *Holendrów*, якія ў апошняй мясцовасці ладзілі судназходства на Бугу. Зыгмунт Глогер у *Старапольскай энцыклапедыі*: „*Holendernia, olędernia*, tak za czasów saskich zaczęto nazywać w Polsce obory folwarczne, dworskie, do których sprowadzano stadniki [samce rozpłodowe] holenderskie i żuławskie dla poprawienia mleczności krów polskich". Вельмі магчыма, што і ў *dobrach rudzkich* былі такія аборы, даючы назву не толькі мясцовасці, але і ўсяму знатнаму роду...

У Алендах перасячэнне дарог: з Рудкі ў Боцькі і з Браньска ў Драгічын. Апошняя пралягае праз лес і выходзіць у вёску Малышчын, што ў Гродзіскай гміне. Манаграфія Гродзіскай гміны: „Nazwa wsi pochodzi od nazwy osobowej Małyszka, Małyszko. W 1505 r. wieś wchodziła w skład dóbr rudzkich. W 1921 r. we wsi było 12 domów, w których mieszkały 93 osoby (83 katolików i 10 prawosławnych, wszyscy Polacy).

З Малышчына відаць вежу адлеглага на паўтара кіламетра касцёла ў Чаях. Манаграфія: „Pierwotnie do XIX w. wieś nazywała się Czahy. W 1503 r. król Aleksander Jagiellończyk nadał wieś swemu dworzaninowi Jakubowi Karwatowi (Chorwatowi)". Ігнат Даніловіч: „Oddali jesmo toje seło Czasy, ludi i zemli wieczno jemu i jeho żenie, i ich dietiam, i na potom buduczym ich szczadkom, a on nam majet z toho służbu zemskuju zastupowati". Дакумент, як відаць, быў пісаны на тагачаснай дзяржаўнай мове Вялікага Княства Літоўскага. Сяліліся там верагодна і носьбіты тае мовы; манаграфія падае прозвішчы жыхароў вёскі з 1800 года: Marszaluk, Mazur, Sieńczuski, Jastrzębski, Fronczuk, Krawczuk, Baluk, Komaziukowa, Ignaciuk, Mazurczak, Piętka, Litwińczuk, Tymosiak, Deralczuk, Antoniuk, Grzędziak, Zbytek, Iczukowa, Owsianiuk, Walczuk, Łukasiuk, Sacharczuk, Malarczuk, Barańczuk. І далей: „W 1921 r. w Czajach było 36 domów, w których mieszkało 238 osób (wszyscy Polacy i katolicy)". І яшчэ крыху пра канфесійныя справы; драгічынскі партал: „Projekt budowy kaplicy dojazdowej w Czajach zrodził się w latach pięćdziesiątych XX w., ale władze komunistyczne nie pozwalały na budowę. Po wielu próbach pierwsza Msza św. została odprawiona 20 października 1957 roku w prywatnym mieszkaniu, zaadaptowanym na tymczasową kaplicę. Jednak po trzech latach w 1960 roku władze powiatowe zabroniły odprawiania Mszy św. w dotychczasowym pomieszczeniu. Dopiero 30 grudnia 1978 r. Urząd Wojewódzki w Łomży pozwolił na budowę kaplicy w Czajach. 14 października 1985 roku administrator apostolski diecezji erygował samodzielny rektorat w Czajach".

Пра Чаі я так напісаў мімаходам, бо і мімаходам прайшоў я побач Малышчына, кіруючыся ў бок Карыцін, якія таксама былі ў ліку *dóbr rudzkich*. Манаграфія: „Pierwotnie w XV w. i pierwszej poł. XVI w. wieś była nazywana Korycino, co mogło pochodzić od położenia wsi w miejscu dawnego koryta rzeki lub w zagłębieniu. W pobliżu znajduje się cmentarzysko kurhanowe z okresu wczesnego średniowiecza. Mieszkający we wsi unici co najmniej od 1726 r. należeli do parafii w Czarnej Cerkiewnej, natomiast katolicy do parafii w Rudce".

Дарога з Малышчына ў Карыціны вядзе цераз лес і вёска амаль з лесу выходзіць. У вёсцы маю ўвагу прыцягнулі два будынкі: адзін з іх выглядам нагадваў мне млын, другая мураванка вылучалася адметнымі навугольнікамі і абрамленнем акон. На суседнім участку дзве жанчыны выбіралі корм з сіласа; сказалі яны мне, што ў першым будынку была калісь сушыльня лясных дароў, а другі, які да вайны належаў графству Патоцкіх, пасля вайны займала лясніцтва, а зараз ён у прыватным уладанні.

Апошнім часам шмат хваляванняў выклікае ў нас справа двухмоўных назваў мясцовасцей на дарожных указальніках. Гэтае хваляванне кранае афіцыйных назваў тых мясцовасцей, бо менш афіцыйнае тапаграфічнае двухмоўе было не толькі ў перыяд Вялікага Княства — яно жывое і сёння, і то ў такіх мясцовасцях, у якіх сённяшні перапіс насельніцтва выяўляе толькі адну нацыянальнасць. Маю тут на думцы прыдарожныя крыжы. Такі крыж, з кірылічным надпісам на цэментным пастаменце, стаіць на акраіне Карыцін з боку Сямёнаў...

Калі я разгледзеўся шырэй, пабачыў на іншым канцы Карыцін іншы сакральны аб'ект — гэта філіяльная капліца Рудчанскай парафіі. Драгічынскі партал: „Koryciny — murowana kaplica dojazdowa pw. św. Józefa Robotnika, zbudowana została w latach 1984-1985. Zgodę na jej budowę potwierdził 24 listopada 1984 roku Prezes Rady Ministrów PRL". Мабыць, на той час быў гэта аб'ект асаблівай дзяржаўнай важнасці... Пасярэдзіне вёскі стаіць яшчэ невялікая капліца са скульптурнай выявай Святога Сямейства, падказваючы і канфесійную важнасць храма ў Карыцінах. Святы Юзаф, муж Марыі, з'яўляецца нябесным заступнікам рабочых мас; мо таму і тадышні прэм'ер ад нашай атэістычнай партыі рабочых мас асабіста ўключыўся ў справу пабудовы культавага тым масам аб'екта...

Каля кіламетра ад Карыцін у напрамку Сямёнаў знаходзіцца Ziołowy Zakątek — даволі цікавы праект турыстычна-адпачынковай накіраванасці. На новай мураванцы шыльда оптавага склада лясных дароў; зайшоў я туды з думкай купілі нейкай невялічкай упакоўкі спецый. Аднак такія капрызы задавальняюць у суседніх густоўна аздобленых будынках, дзе знаходзяцца кватэры пансіённага характару і, мабыць, па рознічнай цане. Не заглядаў я ўжо туды, але сам праект такога комплексу мне спадабаўся. Гэта, у адрозненне ад моднага бяздзейства на трапічных пляжах прапанаванага ненадзейнымі турыстычнымі дзялкамі, прапанова актыўнага адпачынку ў даволі цікавым асяроддзі, не толькі культурным з элементамі візантыйскага ўплыву. Навокал шмат лясоў, прыродны запаведнік „Карыцін" ды шмат адзінокіх дрэў — векавых помнікаў прыроды.

(працяг будзе)



Супольная падрыхтоўка да конкурсу (чацвёрты злева: войт Шудзялаўскай гміны)

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# У карысць вёскі

Шудзялаўская гміна, хаця бедная ў грошы, затое багатая ў актыўных людзей перш за ўсё ў сацыяльнай і культурнай прасторы. Здаецца, што сусветная дэпрэсія і ялавы матэрыялізм мінаюць мясцовых шырокім кругам. Доказам таму з'яўляецца ўдзел шматлікіх гміннных, фармальных і нефармальных, арганізацый у сёлетняй Алімпіядзе вясковай актыўнасці. Каардынатарам конкурсу, арганізаванага Рэгіянальным сакратарыятам Краёвай сеткі вясковых абшараў, з'яўляецца Беластоцкі цэнтр падтрымкі няўрадавых арганізацый. Менавіта старшыня гэтага цэнтра Катажына Латоўская заініцыявала працоўную сустрэчу з шудзялаўскімі актывістамі. Усе зацікаўленыя справай, на чале з войтам Шудзялаўскай гміны Марыюшам Чабанам, сабраліся 15 лютага ў вясковай святліцы ў Вярхлессі. Тут, супольна са спадарыняй Катажынай, вялася гарачая дыскусія і абмяркоўваліся патэнцыяльныя конкурсныя прапановы. Ахвотныя маглі заяўляць свае ініцыятывы ў дзевяці конкурсных катэгорыях, звязаных, між іншым, з папулярызацыяй мясцовых традыцый, культурным ажыўленнем і інтэграцыяй, экалогіяй ці эканамічнай дзейнасцю. У ліку патэнцыяльных алімпійцаў апынуліся і маладыя прадстаўніцы Вярхлескага салэцтва. Іх галоўная турбота гэта актывізацыя і інтэграцыя даволі шматлікай мясцовай моладзі школьнага ўзросту. Анна Дмітрук з Вярхлесся прызналася, што існуе вялікая патрэба добраўпарадкаваць месца сустрэч у будынку святліцы і выдзеліць участак зямлі пад спартыўную пляцоўку. Далёка не кожны можа дазволіць сабе на паездку ў шудзялаўскі спартыўны комплекс, таму вярхлескія дзеткі найчасцей гуляюць на вуліцы.

Старшыня пажарнай каманды ў Зубжыцы-Вялікай Міраслаў Суровец ужо ад некалькіх гадоў суарганізуе ў сваёй вёсцы гміннае свята бульбы, мэтай якога з'яўляецца падтрымка кулінарных традыцый рэгіёна. Між іншым, гэтае мерапрыемства будзе змагацца за імя найлепшай вясковай ініцыятывы.

Жыхаркам Слоі марыцца, між іншым, вяртанне даўняга архітэктурнага аблічча вёскі. Паводле іх слоў, працэс рэканструкцыі ўжо пачаўся. Штораз часцей маладыя спадчыннікі аднаўляюць свае старыя, драўляныя хаты ў аўтэнтычным стылі. А яшчэ слаянскім гаспадыням хочацца ўпрыгожыць вёску дэкарацыямі з саламяных цюкоў, падгледзенымі ў вёсках на другім баку мяжы.

Да алімпійскага спаборніцтва далучыцца і веласіпедны рэйд „Адэльскім шляхам". Ідэя жыхароў Войнаўцаў здаецца быць даволі цікавай, тым больш што кранае гістарычную і культурную спадчыну рэгіёна. Ідзе пра спрадвечныя, блізкія сувязі, між іншым, гэтай вёскі з непадалёкім гарадком Адэльск, што ў Беларусі. На жаль, арганізатары веламарафона абмяжоўваюцца да вызначэння шляху толькі па адным баку мяжы і пакуль пашыраць ці мяняць нічога не збіраюцца.

Згодна з конкурснымі правіламі Шудзялаўскі асяродак культуры можа ўдзельнічаць тут толькі ў якасці партнёра ці прадстаўніка. Яго дырэктарка Альжбета Ярашэвіч не адмаўляецца ад падтрымкі вясковых ініцыятыў. Паводле яе слоў, поспехі культурна-сацыяльнага развіцця гміны заключаюцца менавіта ў добрым, узаемным зразуменні і супрацоўніцтве.

У рамках падрыхтоўчай сустрэчы прайшла таксама прамоцыя таленту навакольных рукадзельнікаў. У зале на першым паверсе вярхлескай святліцы свае працы паказвалі Эва Варановіч з Войнаўцаў і Юры Гібульскі з Астраўка. Вышыванкі спадарыні Эвы вельмі прыгожыя, але пакуль мала папулярныя ў рэгіёне. Яе казачныя выяўленні, у асноўным навакольнай прыроды, вядомыя толькі публіцы конкурсу габеленавых вышыванак у Кнышыне. Спадарыня Эва спадзяецца, што гэтая сустрэча дапаможа ёй у пашырэнні мастацкіх кантактаў, а яе творчасць узмоцніць пазітыўнае аблічча не толькі роднай вёскі, але і цэлай Шудзялаўскай гміны.



Юры Гібульскі (трэці злева) распавядае пра сваю творчасць





# http://fest.icomos.by

Апошнімі гадамі Беларусь імкнецца прыцягнуць да сябе як мага больш турыстаў. Такое жаданне зразумелае — замежнікі прывозяць з сабой валюту і аддаюць яе за экскурсіі і прагляд цікавых, гістарычных будынкаў, набываючы разнастайныя сувеніры і прэзенты. Дзеля павелічэння турыстычнага патоку рэстаўруюцца старыя палацы і сядзібы. Праўда, некаторыя кажуць, што далёка не заўсёды тую працу можна назваць рэстаўрацыяй — хутчэй, стварэнне макетаў старадаўніх будынкаў альбо асобных іх фрагментаў, але гэта неабавязкова ведаць звычайнаму турысту. Яго справа глядзець, слухаць і аддаваць грошы.

Расповеды аб мінулым Беларусі былі б, канешне, больш цікавымі, калі б многае са зруйнаванага за часы апошняй вайны і камуністычнага панавання засталося не толькі ў памяці і на фотаздымках, але было б адноўлена. Разам з тым цікавасць расповеду ў многім залежыць ад асобы, якая даносіць звесткі аб даўно мінулых часах. А гэтае майстэрства, як і кожнае іншае, трэба цэлы час удасканальваць. І адным з найбольш эфектыўных спосабаў тут можа быць бясплатная экскурсія для мясцовых жыхароў, якія будуць слухаць таго, хто будзе распавядаць цікава, а не таму што „грошы сплачаны". Адбываецца такое ў Беларусі падчас „Фэсту экскурсаводаў" ужо некалькі гадоў. Каб пазнаёміцца з некаторымі акалічнасцямі гэтага мерапрыемства, трэба зайсці на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://fest.icomos.by**.

Сайт „Фэст экскурсаводаў" выглядае даволі проста. Там няма аніякіх аздабленняў, відэа і фота. Усяго толькі нелькі старонак тэкставай інфармацыі на шэра-белым фоне выяўлення.

Як сведчыць тэкст на галоўнай старонцы, фэст быў прыдуманы ў 2008 годзе некалькімі арганізацыямі і краязнаўчымі гурткамі ў Мінску. „Галоўная ідэя мерапрыемства — прыцягненне ўвагі людзей да тых гістарычных помнікаў, побач з якімі яны жывуць і каля якіх праходзяць кожны дзень. Сярэднестатыстычны жыхар Беларусі перакананы, што ў яго рэгіёне няма нічога цікавага. Нясумна ў Нясвіжы, цікава ў Польшчы, захапляльна ў Парыжы, а вось у ягонай вёсцы, мястэчку, мікрараёне — нецікава", — распавядаецца там.

Выявіўшы такія нігілістычныя меркаванні, экскурсаводы Мінска прыйшлі да высновы, што жыхарам Беларусі трэба, як кажуць, „ткнуць носам" у мясцовыя забыткі, прычым зрабіць гэта абсалютна бясплатна. Звычайна, „Фэст экскурсаводаў" прымяркоўваецца да Міжнароднага дня помнікаў і мясцін, які святкуецца па рашэнні ЮНЕСКА 18 красавіка.

„З цягам часу да нас далучаюцца новыя людзі — гісторыкі, экскурсаводы, краязнаўцы, ініцыятыўныя актывісты ў рэгіёнах. Колькасць экскурсій расце з кожным годам. Найбольш іх праводзіцца ў Мінску", — сведчаць арганізатары краязнаўчадабрачыннай акцыі, пра якіх больш падрабязна можна даведацца на аднайменнай старонцы. Сярод іх Беларускі камітэт ІКАМОС, аб'яднанне „Гісторыка", Беларуская асацыяцыя экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў, Беларускі фонд культуры, Краязнаўчы клуб „Дыярыуш" з педуніверсітэта імя Максіма Танка і турыстычная фірма „Тандэм Тур".

Нягледзячы на тое, што першы фэст прайшоў у 2009 годзе, навін на сайце няма. І адным з найгалоўнейшых недахопаў старонкі „Навіны" з'яўляецца адсутнасць там пазначэння года ў датаванні паведамленняў. Часам немагчыма даведацца, у якім жа годзе тая ці іншая падзея адбывалася.

Праўда, не тычыцца тое старонкі „Фэст-2013", дзе распавядаецца, што сёлета ён пройдзе 20-21 красавіка.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Адарваны ад каранёў

# 130 гадоў з дня нараджэння Івана Бялькевіча



Фота з архіва Сяргея Чыгрына

6 сакавіка 1883 г. у вёсцы Варонічы, што на Слонімшчыне, нарадзіўся Іван Бялькевіч, беларускі мовазнавец, педагог, аўтар слоўнікаў. Адукацыю ён атрымаў у знакамітай Свіслацкай гімназіі, якую скончыў у 1909 годзе, што ўласна і вызначыла ўсё яго далейшае жыццё. Некаторы час Бялькевіч выкладаў у школах Слонімшчыны. Калі прыйшла Першая сусветная вайна быў у бежанстве — у тагачаснай Саратаўскай губерні Расеі. У 1919 г. вярнуўся ў родныя мясціны. Са жніўня 1920 г. Іван Бялькевіч быў паклікаsucceeding на працу ў Наркамат асветы БССР, аднначасна выкладаў у сталічных школах. Ужо ў Мінску скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Потым лёс закінуў яго на ўсход Беларусі — амаль тры гады Бялькевіч выкладаў і быў дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. У 1927 г. зноў пераехаў у Мінск, дзе быў навуковым супрацоўнікам Інбелкульта і Інстытута мовазнаўства Беларускай акадэміі навук.

Сталінскія рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай эліты не маглі абмінуць Івана Бялькевіча. Ён быў арыштаваны 17 лютага 1930 г. па так званай справе „Саюза вызвалення Беларусі". Сваёй віны не прызнаў. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 г. высланы на 5 гадоў у Іашкар-Алу. Там быў кінуты на працу на лесапавале. Пасля вызвалення з савецкага канцлагера выехаў у Данецкую вобласць, дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру. У 1948-1958 гг. працаваў у розных навучальных установах Жданава (цяперашні украінскі Марыуполь). Да канца жыцця Іван Бялькевіч так і не атрымаў дазволу вярнуцца на Радзіму. У Марыупалі ён і памёр 18 кастрычніка 1960 г. За месяц да смерці Бялькевіч быў рэабілітаваны, хоць у нейкім сэнсе дачакаўся справядлівасці.

Бялькевіч як навуковец вывучаў дыялекталогію і культуру беларускай літаратурнай мовы. Ён аўтар артыкулаў па беларускім мовазнаўстве і „Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны", які быў падрыхтаваны яшчэ ў 1920-х гг., а выдадзены толькі ў 1970 г. Унікальнасць гэтай працы ў тым, што гэта самы вялікі слоўнік беларускай мовы Магілёўскай вобласці, які зміяшчае каля 20 тысяч слоў. Гэты адметны слоўнік, укладзены з тлумачэннем значэння слоў і ілюстрацыямі, досыць шырока адлюстроўвае стан і асаблівасці жывой мовы насельніцтва ўсходняй часткі Магілёўшчыны ў першай чвэрці XX стагоддзя.

Адарваны ад родных каранёў ажно на трыццаць гадоў — палову свайго дарослага жыцця Іван Бялькевіч не мог займацца любімай справай, не мог напоўніцу рэалізаваць свой даследніцкі мовазнаўчы талент, не мог працаваць на карысць сваёй Айчыны. Яшчэ адзін лёс выгнанніка, лёс беларуса, які не дачакаўся сваёй дзяржавы.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

# Свет ніколі не будзе ўжо такім жа

Званок ад дваюраднай сястры з Сямятыч Міраславы ў пятніцу 15 лютага г. г. а 15:58 быў кароткі і неверагодны: не жыве брат. Настолькі неверагодны, што я ўсяго прыняў яго змест да ведама. Але мой наступны званок да маці развеяў усялякія сумненні: брат Яўген сапраўды ўжо не жыў. Ноччу з 14 на 15 лютага каля 3 гадзіны раніцы схапіў яго інфаркт. Дзве хуткія дапамогі, у тым ліку адна з Бельска, нічога не дапамаглі. Нягледзячы на спробы рэанімацыі, брат памёр. Прывезлі яго толькі на другі дзень. У нядзелю, 17 лютага, у дзень смерці Сакрата Яновіча (пра што я яшчэ ў той час не мог ведаць), яго пахавалі. Сакрат Яновіч памёр ужо вечарам, пасля братавых памінак. Абодва нябожчыкі сустрэліся некалі ў рэдакцыі „Нівы”, у якой я працаваў у той час штатным рэдактарам у васьмідзесятыя гады ў маім рэдакцыйным пакойчыку на тадышняй вул. Весялоўскага, 1 у Беластоку. Брат якраз тады гатовіўся да свайго вяселля. Пачуваўся ён да беларускасці, нягледзячы на тое, што беларускай крыві было ў яго не зашмат.

Паводле пакойнай ужо цёткі Надзі з Мяшэчкаў Дземасюк (з Пружанаў) быў ён здзіўляюча падобны да нашага прадзеда Сідара Мошкевіча, прыступіўшага ў свой час да маёй прабабулі Тэклі Бычкоўскай у Ліхачы з Жадзенаў — круглай сіраты (жыла 92 гады, пахаваная яна ў Мокрым каля Пружанаў). Прадзеда 17 ліпеня 1942 г., як і яго двух сыноў — родных братоў маёй бабулі Матроны, народжанай Мошкевіч — Антона і Нікана, а таксама ягонага зяця Станіслава Харжэўскагя з Нямковіч, ягонага брата Іосіфа і свата Сігізмунта Харжэўскага замучылі гітлераўцы ў лесе каля вёскі Краснае на поўнач ад Пружанаў падчас II сусветнай вайны. Усе яны, акрамя, мабыць, Нікана Мошкевіча, лёс якога невядомы (гавораць, што арыштаваны на пачатку вайны, мучаны на допытах у Пружанах, пасля быў зняволены гітлераўцамі ў Бельску-Падляшскім), там спачываюць. Ягоныя дочкі: цётка Люба і Ніна жывуць цяпер у Днепрапятроўску на Украіне. Сын Яўген ужо не жыве. Упершыню ў гэтым горадзе сустрэўся я з імі ў 2007 г.

Дзесяткі людзей праводзілі ў нядзелю майго брата ў ягонай роднай вёсцы. Шмат з іх развіталася з ім ужо ў суботу, нават да майго прыезду. Не ўсе ведалі аб тым, таму не ўсе з жадаючых правесці брата ў апошні шлях прынялі ўдзел ва ўрачыстасці апошняга развітання. Брат спачыў каля нашага бацькі Івана (1933-2011), памерлага 13 снежня, пахаванага 14 снежня 2011 г. Перад смерцю хацеў яшчэ сустрэцца са мною.

Я сапраўды збіраўся прыехаць у сераду-чацвер перад самай ягонай смерцю да маці. Але шмат бюракратычнай працы, з якой я не спраўляўся, перашкодзіла мне ў гэтым. Некалі думаю: можа, калі б я тады прыехаў, брат бы жыў? Так як адзін раз ужо некалі я ў сваёй і ягонай маладосці ўратаваў яму ягонае жыццё.

Вечная Яму памяць!

Юрка Трачук

# Як дбаюць пра сваё прадпрыемства

Аднойчы ўбачыў я, што ў Гайнаўцы на аўтобусным прыпынку ПКС па вул. 3 Мая ў раскладзе няма ўпісанай гадзіны ад’езду аўтобуса з Гайнаўкі ў Беласток праз Нараўку, Сушчу і Міхалова а гадзіне 10:52. Тэлефаную ў ПКС у Беластоку. Сакратарка не хоча спалучыць з прадстаўніком кіраўніцтва і сама, як кажуць, бярэ справу ў свае рукі. Я ёй усё расказаў і яна мела заняцца недахопам у гайнаўскім раскладзе. Я дадаў, што прасіў вадзіцеляў аўтобусаў на гэтай лініі, каб паведамілі сваю фірму, што ў раскладзе не ўпісаліаднаго курса аўтобуса. А яны не ды не. Бо гэта, сказала мне сакратарка, бюро ПКС — „не іх брошка”.

Мінуў адзін тыдзень і другі, а расклад вісіць той самы, што быў і ў мінулым годзе, г.зн. з недахопам. Нічога не атрымалася з маёй інтэрвенцыі.

20 лютага г.г. паехаў я да Юзафа Кліма, члена Праўлення акцыянернага таварыства ПКС у Беластоку па вуліцы Фабрычнай. Ён мяне прыняў і запісаў і пра загану, і пра тое, што некаторыя аўтобусы не адпраўляюцца ў шлях, хаця яны ўпісаны ў расклад. Даў прыклад: не паехаў з Беластока ў Гайнаўку аўтобус а гадзіне 14:40 (ён едзе праз маю вёску Ляўкова). Ехаў я тады ў Гайнаўку і дадому дабраўся а 19 гадзіне. А гэта страта грошай і часу. На ўсякі выпадак захоўваю білеты.

І вось мінае дзень за днём, а зруху ў маёй справе ніякага! Расклад вісіць той самы, што і вісеў ад верасня 2012 года! Пасажыры не ведаюць, ці ездзіць той аўтобус а гадзіне 10:52. У расклад яго не ўпісалі.

Вось як працаўнікі ПКС у Беластоку дбаюць пра сваё прадпрыемства: ад вадзіцеля аўтобуса да членаў праўлення. Дзе тады будзе добра!

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Варта задумацца

15 лютага над Чалябінскім раёнам зваліўся дождж метэарытаў. Навочныя сведкі так каментавалі здарэнне: „На небе з’явіўся вялікі аб’ект, які рухаўся з шалёнай хуткасцю. Калі ўзрываўся над горадам, спаданню касмічных камянёў спадарожнічалі гучныя ўзрывы. Уключалася сігналізацыя ў аўтамабілях. Узнікалі расстройствы ў сотавых тэлефонах. Лопалі шыбы ў вокнах. Падзея выклікала панічны страх у людзей па ўсім свеце”. І не без прычыны. Прароцтва наконт канца свету італьянскі прэсвітар айцец Піо тлумачыў відзежай, якую спазнаў 15 студзеня 1957 года. Тады паказаўся яму Хрыстос і прадвесціў, што апакаліпсіс будуць папярэджваць рэзкія ўраганы і землятрусы ў многіх краінах свету. Маланкі і громы з вогненных хмар будуць паліць іператвараць у попел усё, што пазначана грахом. Здарэнне над Чалябінскам прыгадвала прароцтва айца Піо. У тым жа часе ўзарваўся метэарыт над Кубай, зарэгістравана землетрасенне ў Італіі, Грэцыю і Венгрыю наведалі праліўныя дажджы. Ці гэта прадвяшчае канец свету?..

Канца свету, думаю, не будзе. Змяніцца адно пакаленне людзей. Усе гэтыя катаклізмы: паводкі, ураганы, засухі, войны, землетрасенні і таму падобныя з’яўляюцца вынікам неразважлівай дзейнасці чалавека. Асноўнай заганай з’яўляецца шкоднае высяканне лесу. Гэта ўплывае на змену клімату і спрычыняецца да глабальнага ацяплення. Не без значэння застаецца цывілізацыйны прагрэс і забруджанае паветра вуглекіслым газам. Надта многа займаемся палітыкай, менш увагі прысвячаем ахове асяроддзя. І маем тое што маем...

Дарэчы, чалавек як разумнае стварэнне павінен мець свядомасць, што гэта ён каваль свайго лёсу, што на Зямлі з’яўляецца госцем. А госць, як вядома, прыходзіць і адыходзіць. Адзін затрымаецца даўжэй, іншы хутчэй адыдзе. Такое права натуры. Нязведаныя затым наканаванні лёсу. І над гэтым трэба задумацца.

Уладзімір СІДАРУК

# Адгаданка

1. у каго дабро вядзецца, у таго і ён нясецца, 2. „руль” вазака, 3. крывавая бітва, 4. лясная жывёла з галінастымі рагамі, 5. Фёдар, класік сусветнай літаратуры, аўтар „Злачынства і кары”; яго продкі выводзіліся з Беларусі, 6. балгарскі ўладар, 7. ваўняная тканіна для паліто і касцюмаў, 8. горад з Эйфелевай вежай, 9. жончын бацька.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — бытавую пагаворку.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Бас, бусел, бюро, вяз, вяроўка, дзіця, каўтун, ліліпут, сені, яд.

Рашэнне: **Калі б усе людзі цягнуліся ў адзін бок, то свет перавярнуўся б**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Лук’янюку** з Бялкоў і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.

# 10.03 — 16.03

**(22.03. — 20.04.)** Дзейнічай адважна і разважна! У пачуццях — нелаяльныя няхай ідуць прэч. Лепшы час для кашалька, чым для сэрца. На працы — лепш самастойна. Час упарадкаваць фінансы. Перад 15.03. падумай аб інвестыцыях, ды будзь цярплівы асабліва пасля 12.03. Маладзік Месяца 12.03. можа ўвагнаць цябе ў дол, адчуеш сябе самотным і некаханым; старайся сцішыць сябе і не бяры на сябе зашмат.

**(21.04. — 21.05.)** Раз на возе, раз пад возам, ды не падай духам, прыйдуць лепшыя дні. У пачуццях не пара на новую пару. У здароўі зараджвай акумулятары. Да 16.03. пераканаешся аб важнасці асцярожнасці ў інтарэсах. У сакавіку прадбачваецца для цябе ўсмешка фартуны. Выкарыстай сваю кемлівасць да інтарэсаў! Лаві нагоды, бо пасля будзе з гэтым цяжэй!

**(22.05. — 22.06.)** Не будзеш наракаць на нуду. Сцеражыся зайздроснікаў. У сям’і ўсё ператасуецца. У здароўі вяртанне да раўнавагі, хаця будуць балець галава і спіна. Тыдзень поўны прыгод. Усе здаровыя ідэі, прыйшоўшыя табе ў галаву, можаш рэалізаваць. Не ігра́й у латарэю, не ідзі ў казіно. Субота добрая для рамонту.

**(23.06. — 23.07.)** Змены ў пачуццях прынясе маладзік Месяца (11.03.), прадвяшчаючы новае каханне. Можаш закахацца ў кімсьці таямнічым і недаступным. Настроі як у сакавіку. Часам лепш укусіся ў свой язык. У здароўі пара на дэтаксікацыю, з 11.02. еж фасолю, капусту і памідоры. Лёс спрыяе ў грашах усю першую палову месяца, не спалохаешся рызыкі, ды пасля прытармазі выдаткі.

**(24.07. — 23.08.)** Да 12.03. будуць нагрувашчвацца праблемы, яны могуць замарудзіць твае дзеянні, хтосьці з сям’і перашкодзіць у тваіх фінансавых планах. Твой найлепшы саюзнік — самаўпэўненасць. У хаце застой, цішыня (дачакайся 20.03, тады ўсе справы рушаць). Не хваліся поўным кашальком.

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях гульні і незагаслыя каханні. Дома ты — перфекцыяніст. У здароўі — на першай скорасці, мусіш задбаць аб адпачынак. У кар’еры не дай сябе выгрызці. 9-11.03. лепш не ўключайся ў праблемы іншых. І не патурай тым, хто цябе схоча выкарыстаць.

**(24.09. — 23.10.)** Раўнд рандэву, шалёных імпрэз, сустрэч (найбольш горача пасля 12.03.). Можаш пры нагодзе наладзіць карысныя знаёмствы. Не раздзірай старых ран. Ашчаджай сілу і дбай аб адпачынак. Можа паявіцца шанц на сур’ёзны заробак на тваіх талентах. Чакаюць цябе (увесь месяц) узнагароды, выйгрышы. Грошай не выдавай на глупствы, дай ім шанц на размнажэнне.

**(24.10. — 22.11.)** У першай палове сакавіка ты ў знакамітай форме. Адолееш ляноту, хопіць табе энергіі. Уважліва прыглядайся людзям. Будзь асцярожны, а дасягнеш мэту. У пачуццях — маеш шанц знайсці братнюю душу. У кар’еры магчымае павышэнне. Асабліва ў панядзелак можаш сябе праявіць. Вельмі дбай аб сваё горла.

**(23.11. — 22.12.)** Увесь месяц поўны эмоцый. Тыдзень насычаны, вельмі ўдалы і плённы. Увага з боку кіраўніцтва, калег, канкурэнтаў. У кар’еры старайся быць дыпламатам. 9-12.03. не праваронь чагосьці важнага. Можа нечакана трапіць у цябе страла Амура. У сям’і найбольш здабудзеш спакоем. Пільнуй свайго горла і насавых пазух. У панядзелак нечаканыя весткі.

**(23.12. — 20.01.)** Поспех можа каштаваць цябе многа працы, ды выйгрыш асалодзіць усе адрачэнні. У пачуццях каханне зыдзе на далейшы план. У хаце цішыня перад бурай. Будзе цябе проста насіць — займіся спортам. На працы не сягай па ўладу, дастасуйся да сітуацыі. Касу моцна трымай у жмені.

**(21.01. — 19.02.)** Вельмі пільнуй свайго здароўя, прыслухоўвайся арганізму. Пасля 11.03. з кожным днём будзе штораз лепш. Каханне і фартуна застукаюць у твае дзверы, давер толькі інстынкту. У кашальку май, толькі не спрачайся з шэфам.

**(20.02. — 21.03.)** Знакамітая форма ў першай палове месяца. Не падпісвай дамоў, не забавязвайся да нічога (кепскія дарадчыкі, фальшывыя сябры). Агромныя магчымасці, а поспех — як рукой падаць. Пастаў на сумленнасць і празрыстасць гульні. 11.03. — час на глыбокі роздум і... шуканне нагод для заробку; кіруйся інтуіцыяй! Наведай касметолага ці дантыста (да 20.03.).

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У Мінску варта зайсці ў ...

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Як і належыць сталіцы, у Мінску бурліць культурнае жыццё. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова наведаць галерэю сучаснага мастацтва «Ў», адзіную такую ў Беларусі, і прылеглую да яе кавярню, дзе наведвальнікі гавораць толькі па-беларуску, і кніжны магазін «Логвінаў», дзе можна знайсці (калі іх не выкупілі на пні) самыя новыя творы беларускіх аўтараў. Акрамя таго, варта наведаць Нацыянальны мастацкі музей, дзе час ад часу прадстаўлены ўнікальныя ў еўрапейскім маштабе выставы, як у апошні час Марка Шагала, а раней беларускіх мастакоў «Парыжскай школы» («Ecole de Paris»). Якраз сюды мы трапілі, суправаджаючы візіт у Мінск дырэктаркі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур.


Агнешка Карыткоўская-Мазур (справа) на фоне партрэтў Радзівілаў



Уваход у галерэю «Ў»

У Нацыянальным мастацкім музеі, распаложаным на трох паверхах у двух вялікіх будынках, дзе знаходзіцца каля 30 тысяч фатаграфій, ікон і іншых экспанатаў, мы хацелі пабачыць выставу «Мастакі парыжскай школы з Беларусі». На жаль, на момант нашага прыезду ў Мінск выстава больш не паказваецца. Тым не менш, ад нашай экскурсаводкі і з каталогаў (па кошце каля 60 долараў!) мы змаглі даведацца што гэта за з'ява — «Ecole de Paris» у разуменні беларускіх куратараў мастацтва. У адпаведнасці з вобразам, сфармаваным мастацтвазнаўцамі, галоўным чынам у Заходняй Еўропе, «Парыжскую школу», на самай справе, складала група мастакоў, якія працавалі ў Парыжы ў першай палове XX стагоддзя, у асноўным габрэйскага паходжання. Сярод мастакоў «Эколь дэ Пары» былі прадстаўнікі розных стыляў: кубісты, экспрэсіяністы, а таксама творцы, якія апынуліся пад уплывам фавізму. Большасць гэтых мастакоў жыла ў так званым «La Ruche» — будынку, размешчаным у парыжскім квартале Манпарнас. Як першы стаў тут жыць Марк Шагал. Як было ў выпадку іншых артыстаў беларускай «Парыжскай школы» ў папулярнай заходняй свядомасці мала што вядома. Сярод беларускіх мастакоў, якія з'явіліся на выставе ў Мінску ў Нацыянальным музеі былі, між іншым, Восіп Цадкін з Віцебска, Восіп Любіч з Гродна, Хаім Суцін і Сэм Зарфін са Смілавіч, Міхаіл Кікоін з Гомеля і Надзея Хадасевіч-Лежэ з вёскі Асяцішчы з-пад Докшыц. Цікава, што працы для гэтай выставы па большай частцы прыйшлі з калекцыі «Белпрамгазбанка».

Затое мы змаглі трапіць на часовую выставу работ Марка Шагала. Выставай падзяліўся ізраільскі музей у Іерусаліме. Яна складаецца з больш чым васьмідзесяці работ гэтага габрэйскага мастака родам з Віцебска. Сярод работ — яго ілюстрацыі да Біблії, да баек Жана Лафантэна і «Мёртвых душ» Гогаля.

— Ілюстрацыі да Біблії былі апублікаваны пасля вайны. Што найбольш цікавае ў іх гэта ўспрыманне гэтай габрэйскай кнігі габрэйскім мастаком. Такая кропка гледжання, якая невядомая хрысціянам, еўрапейскім мастакам, — расказала водзячы нас па шагалаўскай выстаўцы і па ўсім музеі Паліна Яніцкая, яго вядучы навуковы супрацоўнік. — У ілюстрацыях да «Мёртвых душ» Шагал паказаў у сваю чаргу свой Віцебск як частку рускай імперыі.

Наша экскурсаводка, распытваная намі, адзначыла:

— У цяперашні час Беларусь вельмі ганарыцца Шагалам. Але ў савецкі час адмовілася прыняць у дар ягоныя працы. Сітуацыя пачала мяняцца ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Заснаваны музей у Віцебску, дзе ёсць і копіі яго прац, і арыгіналы. Правы на ўсе працы Шагала маюць яго спадчыннікі, значыць, фонд, які носіць яго імя ў Парыжы.

У калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея ў Мінску захоўваюцца творы розных эпох, якія прадстаўляюць не толькі чыста беларускія абшары мастацтва. Паліна Яніцкая адзначыла:

— Да Другой сусветнай вайны ў музеі было дзве з паловай тысяч экспанатаў з нацыяналізаваных прыватных калекцый. Пры нямецкай акупацыі, што пачалася ў 1941 годзе, практычна ўся калекцыя была вывезена і страчана. Экспанаты не былі каталагізаваны і зараз мы не можам даказаць, што яны былі нашымі. Такім чынам з 1944 года музей пачаў стварацца практычна з нуля.

Дадала:

— Амаль усе працы, якія мы прадстаўляем, былі куплены. Само патрабаванне твораў толькі таму, што яны з'яўляюцца беларускімі і павінны быць у Беларусі, не мае сэнсу. Нашы карціны былі вывезены нават яшчэ да кастрычніцкай рэвалюцыі. На палітычным узроўні ніхто не хоча кранаць гэтую тэму. Цяпер лягчэй іх купляць. Наш галерэйны бізнес, аднак, не развіты, па меншай меры не на тым узроўні, як у Расіі. На дадзены момант на больш высокім узроўні мы сутыкаемся з побытавымі праблемамі, як выжыць.

У адной з зал мы наткнуліся на карціну з выявамі двух жонак Януша Радзівіла: Марыі і Кацярыны (з Патоцкіх), напісаную нямецкім, малавядомым мастаком. Марыя была напісана на пярэднім плане, і Кацярына — на другім:

— У адпаведнасці з правіламі, прынятымі ў жывапісе гэтага перыяду, на месцы Кацярыны павінна быць, напрыклад, пакаёўка з сабачкам. У той час на пярэднім плане карцін была асоба больш важная. За такі падыход мастаку магло пагражаць турэмнае зняволенне, а Янушу Радзівілу шматгадовыя судовыя разборы, таму што род Патоцкіх не ўступаў роду Радзівілаў. Мастак выйшаў з гэтай сітуацыі, маніпулюючы колерам сукенкі Кацярыны. Менавіта з-за таго колеру сукенкі мы бачым яе як першую, а Марыя зліваецца з фонам, хаця ў рэчаіснасці яна ж знаходзіцца на пярэднім плане.

Будучы ў Мінску немагчыма не заглянуць у адзіную ў беларускай сталіцы незалежную галерэю сучаснага мастацтва, значыць у галерэю «Ў». Галерэя знаходзіцца ў невялікім будынку, крыху збоку цэнтра сталіцы і дзеліць сядзібу з кавярняй, у якой звычайна чуецца толькі беларуская мова. Да выставачнай залы, якая выступае і ў якасці канферэнцыйнай, прылягае дызайн-студыя і кніжны магазін «Логвінаў», дзе можна знайсці кнігі майстраў пяра неабавязкова любімых беларускімі ўладамі.

У кафэ мы сустрэлі Сяргея Шабохіна, куратара выставак і мастака, якога адну з інсталяцый бачылі мы два гады таму ў беластоцкай галерэі «Арсенал» на калектыўнай выставе «Падарожжа на Усход»:

— Калі мы гаворым, у зале галерэі сустракаюцца менеджары, якія маюць справу з мастацтвам з усёй Беларусі. Гэта спроба разведаць стан мастацтва ў розных рэгіёнах краіны. Мы хочам сфармаваць базу дадзеных, якая дапаможа людзям, якія ўдзельнічаюць у мастацтве, далей актыўна працаваць і супрацоўнічаць адны з аднымі ўжо над канкрэтнымі праектамі. Гэтая трохдзённая канферэнцыя, «ArtPlatform», прыкмета таго, што галерэя з'яўляецца не толькі прыватнай ініцыятывай, а фактычным беларускім цэнтрам сучаснага мастацтва.

Без сумневу, галерэя «Ў» з'яўляецца цэнтральным элементам аб'яднання Беларусі і Захаду. Мы гаварылі аб ёй таксама з яе мастацкім кіраўніком Ганнай Чыстасердавай:

— Галерэя засяроджваецца ў асноўным на заахвочванні маладых беларускіх мастакоў і ўключанні іх у міжнародныя праграмы. Гэта тое, што адрознівае нас ад іншых установ, якія ўдзельнічаюць у гэтым відзе мастацтва — што мы адкрытыя для Захаду ў кожным аспекце мастацтва. Нядаўна мы рэалізавалі праект «Мастацтва пакалення XXI стагоддзя. Польшча-Беларусь». Шэраг лекцый на гэтую тэму прачыталі чатырох польскіх куратараў, а потым была выстава ў Акадэміі мастацтваў у Познані. У гэтым годзе мы збіраемся зрабіць два буйныя міжнародныя кураторскія праекты.

На сценах выставачнай залы, дзе якраз праходзіў семінар «ArtPlatform», малады, але ўжо прызнаны фатограф Даніла Парнюк прадстаўляў свае фатаграфіі на выставе «Празднік». Былі яны зроблены ў адзін дзень 2011 года на свяце трох краін на мяжы паміж Беларуссю, Украінай і Расіяй у вёсцы Новыя Юркавічы на Гомельшчыне. Галоўнымі героямі з'яўляюцца звычайныя людзі, і ўсёй выставе спадарожнічаў знамянальны дэвіз: «Руціна святочных дзён цэментуе руціну буднiх».

У сваю чаргу ў кнігарні «Логвінаў» за прылаўкам мы сустрэліся з яе маладой менеджаркай Кацярынай Пецяронай:

— Кнігарні ўсяго тры гады. У больш чым 80 працэнтах прадаем кнігі на беларускай мове, у тым ліку пераклады на беларускую мову. Менш класікі, а пераважная большасць — сучасная літаратура, нованапісаная. Мы робім стаўку на сучаснасць і якасць. Нядаўна мы пачалі новую серыю, у якой выпускаем самыя выдатныя творы беларускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя. Мы працягваем таксама папулярную серыю «За свабоду».

Калі мы з'явіліся ў кнігарні, там можна было купіць некаторыя працы намінантаў на сёлетнюю літаратурную прэмію Ежы Гедройца, прызнаванай беларускім пісьменнікам Польскім інстытутам у Мінску. У гэтым годзе за гэтую прэмію стараліся Сяргей Балахонаў («Зямля пад крыламі Фенікса»), Альгерд Бахарэвіч («Гамбурскі рахунак Бахарэвіча»), Адам Глобус («Сказ»), Уладзімір Някляеў («Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без»), Людміла Рублеўская («Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега») і Юры Станкевіч («Шал»). Узнагарода была ўручана ў пятніцу, 1 сакавіка, а пераможцам стаў Уладзімір Някляеў.

ISSN 0546-1960